© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 51 (2223) Год XLIII Беласток 20 снежня 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Асвета для багатых

Яўген Міраневіч

Паводле Міністэрства адукацыі колькасць студэнтаў у Польшчы ў апошніх гадах узрасла на сто працэнтаў. Адкрыліся прыватныя вышэйшыя школы, а на ўсялякіх суботне-нядзельных курсах універсітэцкія настаўнікі вядуць заняткі для студэнтаў г.зв. завочных вышэйшых навучальных устаноў. У Беластоку колькасць студэнтаў павялічылася нават амаль на дзвесце працэнтаў. Гучыць гэта аптымістычна і робіць уражанне, што моладзь цяпер, як ніколі раней, ірвецца да навукі. У сапраўднасці студэнтам можа стаць кожны, хто мае грошы і дыплом заканчэння сярэдняй школы. Некаторыя адначасова паглыбляюць веды на двух факультэтах. Узнікае толькі пытанне, адкуль бяруцца навуковыя кадры, асабліва таму, што не відаць ніякага руху ў галіне навукі. Адказ, аднак, просты. Напрыклад, адзін знаёмы прафесар працуе адначасова ў шасці незалежных ад сябе вышэйшых установах. Нехта мог бы сказаць: здольны чалавек, але акурат не ў тым заключаецца справа ягонай незвычайнай актыўнасці. Проста ніхто не правярае якасці яго працы. Каб прыватная навуковая ўстанова магла заснаваць, патрэбна, між іншым, адпаведная колькасць прафесараў. Таму кожны, хто мае такое званне, з'яўляецца вартасным набыткам для кожнай школы, якая існуе на грошы студэнтаў.

Мой універсітэцкі настаўнік, які калісьці патрапіў палову курса пасладь на камісійны экзамен, цяпер б'ецца ў грудзі і пытае сябе: „Навошта мне гэта было патрэбнае? Вучыў камуністам знакамітых спецыялістаў, а яны і так марнавалі гэты чалавечы патэнцыял. Сёння, калі я іду вучыць г.зв. завочнікаў, ведаю толькі, што ад мяне патрабуецца, каб пры канцы семестра паставіць кожнаму студэнту пяцёрку. А мне там усё адно. „Klient płaci, klient wymaga". Калі ласка. Ніхто не патрабуе ад мяне, каб я іх прымушаў прысвоіць нейкія веды. Дарэчы, нашым студэнтам патрэбна перш за ўсё паперка, дыплом, які яны, згодна з законам, купляюць. Ведаў праўдападобна ніхто і нідзе ад іх не патрабуе і ў гэтым сэнсе камуністычны падыход да адукацыі не змяніўся таксама ў новых палітычных умовах. Але цяпер нішто мяне не прымушае, нават уласныя амбіцыі, каб я нешта рабіў дзеля ўзбагачэння інтэлекту студэнтаў, а яны самі таксама задаволеныя, што без ніякіх непатрэбных хваляванняў атрымаюць вышэйшую адукацыю. Усе задаволеныя".

Звярнуў я ўвагу свайму былому настаўніку, што неўзабаве так адукава-

[працяг ☞ 4]




## Закалот вакол помніка

Ганна Кандрацюк

Перашкоды ў пабудове помніка пачаліся восенню мінулага года, калі ваяводам стала Крыстына Лукашук, — кажа Юзаф Антанюк, ініцыятар пабудовы помніка.

*Кароткая гісторыя пабудовы помніка*

Старанні пачаліся ў чэрвені 1995 года. Грамадскі камітэт сем'яў памардаваных, — расказвае Юзаф Антанюк, пацвярджаючы кожны факт дакументамі, — выступіў з прашэннем у пісьмовай форме да старшыні Рады горада Бельск-Падляшскі дазволіць перапахаваць астанкі памардаваных вазакоў. Іх магілы знаходзіліся на каталіцкім могільніку ў Кліхах (гміна Бранск), частка забітых была закапана на месцы злачынства ў лесе непадалёк Пухал-Старых.

— У камітэце людзі пажылыя. Наведваць магілы ў Пухалах і Кліхах нам даволі складана, — аргументавалі сваякі і родныя памардаваных.

Два месяцы пазней бельскія райцы станоўча вырашаюць справу. Яны даюць згоду на перапахаванне (пасля эксгумацыі) астанкаў. Месцам спачынку мае быць бельскі вайсковы могільнік. Заадно закранаецца справа помніка ў выглядзе праваслаўнага крыжа са спіскам памардаваных. Два гады ідзе змаганне Камітэта за дазвол на правядзенне эксгумацыі. Урэшце здзяйсняецца яна 23 ліпеня 1997 года. Беластоцкі ваявода дапамагае фінансава, на гэтую мэту прызначае дзве з паловай тысячы злотых (уклад сімвалічны). Самыя пахавіны адбываюцца шырокім рэхам у грамадстве. Удзельнічае ў іх тадышні епіскап Беластоцка-Гданьскі, сённяшні мітрапаліт Праваслаўнай царквы ў Польшчы Сава, дыпламаты Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы, палітыкі, паўтары тысячы насельніцтва. „Gazeta Współczesna" асцерагае перад уздымам „праваслаўнага нацыяналізму". Грамадскі камітэт сем'яў памардаваных вазакоў дзейнічае далей. Засяроджвае свае сілы вакол пабудовы надмагільнага помніка. У канцы рашаецца на манументальны праект (глядзі рысунак) беластоцкага архітэктара Славаміра Максімовіча. Прыблізны кошт пабудовы праўдападобна складзе дзвесце тысяч злотых. Адначасова вядзецца зборка грошай. У хуткім часе на банкаўскім рахунку Камітэта накопліваецца 80 працэнтаў патрэбнай сумы. Большасць ахвяраванняў дасылаюць жыхары навакольных вёсак, ветэраны, сем'і памардаваных, прадпрыемствы. Прымаюцца станоўчыя для Камітэта рашэнні ўлад.

[працяг ☞ 3]

## Куды прадаваць малочныя прадукты?

Гукавічы, Карыціска, Дубічы-Царкоўныя, Старое Беразова, Махнатае, Стары Корнін — гэта вёскі, адкуль гаспадары прыносяць малако найвышэйшага класа. Якраз у гэтых вёсках многа маладых гаспадароў, у якіх больш кароў і свае халадзільныя рэзервуары. Аднак калі не павысіцца цана малака, наўрад ці і ў гэтых вёсках будзе развівацца гадоўля кароў.

[сялянскія клопаты ☞ 3]

## Паэтычная пушча

У зборнік Барыса Руско „Кліч у Белавежскай пушчы" ўвайшлі 74 вершы. Зборнік адчыняе рэцэнзія Вальдэмара Смашча, які падкрэслівае, што хаця ўсе вершы прысвечаны адной тэме, то яны не манатонныя. Наадварот, можна гаварыць аб іх вялікай разнароднасці. Падкрэсліваецца крытыкам і вялікая ўмеласць аўтара ў мастацтве вобразнасці.

[рэцэнзія ☞ 5]

## Журобічы — забыты санктуарый

Журобіцкую царкву наведвала многа паломнікаў. У канцы XIX і на пачатку XX стагоддзя належала яна прыходу ў Дзядковічах. Пасля II сусветнай вайны ў выніку „эвакуацыі" і тэрору „падполля" жыхары Журобіч і навакольных вёсак былі вымушаны выехаць у БССР. У гэты складаны час Журобічы належалі ўжо Жэрчыцкаму прыходу і, паводле „Кліравай ведамасці" ад 1946 г., з гэтага ж прыхода выехала больш за 900 чалавек.

[нарыс ☞ 9]

## Сустрэчы з Тарашкевічавай жонкай

Нягледзячы на звышдзевяностагадовы ўзрост Веры Андрэеўны адчувалася атмасферу прабывання з інтэлігентнай, жыццярадаснай жанчынай са светлай памяццю гісторыі, якая абыходзілася з ёй абыякава, быццам на злосць за тое, што некалі выйшла замуж за Тараса — як Вера Андрэеўна называла Браніслава Тарашкевіча. І дажываць ёй прыйшлося не ў сваім „панскім" доме, а ў сціплай хатцы, якая калісь была варыўняй. Адзінае, чаго прыжыццёва дачакала — гэта вуліца ў гонар свайго мужа і мемарыяльная дошка на „панскім" доме.

[успамін ☞ 10]

## Неўзабаве

— бо 31 снежня г.г. — у продажы з'явіцца навагодні нумар „Нівы" з беларускім календаром на 1999 год.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Беларусь — беларусы

## Правы чалавека па-беларуску

6 снежня ў Мінску адбыўся мітынг, арганізаваны БНФ, прысвечаны 50-м угодкам прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Пасля яго заканчэння міліцыя затрымала 17 чалавек. На наступны дзень сямёра з іх былі асуджаны на некалькі дзён турэмнага зняволення.

Мітынг адбыўся на Кастрычніцкай плошчы, каля якой знаходзіцца рэзідэнцыя Аляксандра Лукашэнкі. Улады не дазволілі праводзіць акцыю ў гэтым месцы. Каб людзі не маглі ўзяць удзелу ў запланаваным апазіцыяй мерапрыемстве, былі закрыты станцыі метро, што знаходзяцца паблізу Кастрычніцкай плошчы. Тралейбусы праязджалі „закрытую зону" не спыняючыся на прыпынках.

Але некалькі соцень людзей усё ж здолелі прыйсці на плошчу. Яны разгарнулі лозунгі, накіраваныя супраць парушэння палітычных, грамадзянскіх і сацыяльных правоў. На мітынгу выступілі намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка, старшыня праваабарончага цэнтра „Вясна-96" Алесь Бяляцкі, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Валерый Шчукін, лідэр БСДП (НГ) Мікалай Статкевіч.

Удзельнікі акцыі прынялі рэзалюцыю, у якой канстатуюцца грубыя і масавыя парушэнні правоў чалавека ў Беларусі, праследаванне па палітычных матывах, абмежаванне свабоды слова. У дакуменце ўтрымліваецца зварот да сусветнай грамадскасці з просьбай аказаць дапамогу беларускаму народу ў барацьбе за свабоду, дэмакратыю і правы чалавека. Расійскаму ўраду прапануюваецца спыніць аказанне дапамогі антыдэмакратычнаму рэжыму.

Яшчэ падчас правядзення мітынгу супрацоўнікі міліцыі ўручылі арганізатарам мітынгу Юрыю Хадыку і Алесю Бяляцкаму, а таксама Валерыю Шчукіну і Мікалаю Статкевічу паведамленні з'явіцца ў Цэнтральны раённы аддзел унутраных спраў Мінска. А пасля заканчэння мітынгу пачалося паляванне на яго ўдзельнікаў. Паводле вестак Праваабарончага цэнтра „Вясна-96", усяго было затрымана 17 чалавек, у тым ліку маці асуджанага за палітычнае графіці Вадзіма Лабковіча — Ядвіга Лабковіч. Двух непаўналетніх хлопцаў неўзабаве адпусцілі, а на астатніх былі заведзены справы пра адміністратыўнае правапарушэнне.

На наступны дзень суд Цэнтральнага раёна Мінска прыгаварыў Юрыя Хадыку і Алеся Бяляцкага да 10 сутак арышту. Мікалай Статкевіч і актывісты БНФ Алег Шагулін, Віктар Рабушка, Уладзімір Кішкурна атрымалі па трое сутак. Астатнім затрыманым было вынесена папярэджанне.

Адначасова ў Партызанскім судзе да 15 сутак зняволення быў асуджаны дэпутат Валерый Шчукін, але не за акцыю на Кастрычніцкай плошчы, а за ўдзел у шэсці рабочых 5 лістапада.

**Зміцер Кісель**

## „Занадта разумных" адпраўляюць на пенсію

1 снежня адпраўлены на пенсію стваральнік і дырэктар Цэнтра імя Францыска Скарыны, доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс. Новым кіраўніком прызначаны кандыдат філалагічных навук Любоў Канапляннік, якая дагэтуль займала пасаду галоўнага інспектара ў Міністэрстве адукацыі.

Каментуючы змену кіраўніцтва Цэнтра для інфармацыйнага агенцтва БелаПАН вядомы беларускі навуковец Валянцін Акудовіч адзначыў, што „ва ўладаў стала ўжо традыцыяй адпраўляць на пенсію выдатных людзей, поўных творчых сіл і фізічна здольных працаваць". У якасці прыкладаў ён прывёў лёсы Васіля Сёмухі і Рыгора Барадуліна — былых рэдактараў выдавецтваў, Міколы Гіля, Анатоля Кудраўца і Анатоля Масарэнкі — былых галоўных рэдактараў штотыднёвіка „ЛіМ", часопісаў „Нёман" і „Першацвет" — людзей „з неверагодна багатым вопытам, якіх усценька адправілі на пенсію" пры дасягненні 60-годдзя. „Такім метадам улады карыстаюцца заўсёды, калі няма іншай магчымасці ўбраць непажаданага для іх чалавека", — заўважыў спадар Акудовіч. Па яго словах, улада такім чынам праяўляе клопат не аб інтэлектуальных каштоўнасцях, якія ствараюць гэтыя выключна адораныя людзі, а аб сваіх палітычных і ідэалагічных інтарэсах.

**(зк)**

## Самы дарагі ў свеце плакат

3 снежня за спробу прадаць на Цэнтральным калгасным рынку Гомеля плакат да 10 сутак зняволення асуджаны старшыня Гомельскага аддзялення Беларускага Хельсінскага камітэта Яўген Мурашка.

Гісторыя з плакатам пачалася яшчэ 19 кастрычніка. Тады Яўген Мурашка арганізаваў пікет каля Гомельскага гарвыканкама. Ён трымаў у руках плакат з надпісам: „Злачынная тая ўлада, якая парушае правы сваіх грамадзян". За гэта яго аштрафавалі на сем мільёнаў рублёў.

7 лістапада, аплаціўшы гандлёвае месца на рынку, спадар Мурашка вырашыў прадаць свой такі каштоўны плакат. Ён ацаніў яго ў сем мільёнаў 100 тысяч рублёў.

У сваю чаргу суд Цэнтральнага раёна Гомеля ацаніў гумар старшыні аддзялення БХК у 10 сутак арышту.

Знаходзячыся ў турме, 7 снежня Яўген Мурашка абвясціў галадоўку.

**(зк)**

## Несанкцыянаваны пікет

10 снежня сябры Беларускага народнага фронту і Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады правялі ў цэнтры Гродна несанкцыянаваны пікет. Акцыя была прымеркавана да 50-х угодкаў прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Удзельнікі пікета трымалі ў руках бел-чырвона-белыя сцягі і плакаты, на якіх былі напісаны артыкулы дэкларацыі.

У адрозненні ад іншых гарадоў Беларусі, дзе любая несанкцыянаваная акцыя апазіцыі выклікала імгненную рэакцыю міліцыі, пікет у Гродне прайшоў без эксцэсаў.

**(зк)**

## Беларусь ужо не згіне!

Расія (нібы тая зязюля свае яечкі ў чужыя гнёзды) параскідала сваіх суайчыннікаў амаль што па ўсіх суседніх ды не толькі суседніх краінах. І з таго далёкага ды не такога далёкага часу яна толькі і мае занятак, што ўвесь час нібыта пяшчотна, па-бацькоўску клапоціцца пра іх лёс ды становішча ў гэтых краінах.

А тым часам вось ужо больш за 80 гадоў у самой Расіі няма належнага, стабільнага парадку і ладу ды дастойнага ўзроўню жыцця ўласнага, расійскага народа.

Няма ўсяго гэтага (а таксама яшчэ і спакою!) і ў тых краінах, куды ў розныя часы, па розных прычынах ды ў розных прапорцыях перакаціполіліся расіяне.

Для такіх вось расіян Беларусь аказалася сапраўды нечаканай, запаветнай знаходкай.

Дзякуючы залішняй памяркоўнасці беларускага народа, яго асаблівай талерантнасці ды манкурству пэўнай часткі беларусаў, гэтыя перакаціполіўшыяся расіяне адчуваюць сябе ў нас, на Беларусі, не гасцямі, а на наш вялікі жаль, сапраўднымі гаспадарамі.

Яны адкрыта грэбуюць нашай мовай, культурай, гісторыяй, нашымі нацыянальнымі гістарычнымі сімваламі ды традыцыямі. Яны цалкам дыктуюць нам сваю волю ды ў нашай краіне нас, карэнных беларусаў, заганяюць, так бы мовіць, у кут, называючы нас нацыяналістамі ды нярэдка нават фашыстамі.

Людцы добрыя, дык ці ж гэта парадак у нашай беларускай хатцы?! Да якога часу гэтак будзе?!

Няўжо нам, беларусам, трэба перабірацца на якую-небудзь іншую планету, шукаючы паратунку ад гэтай шавіністычнай пошасці?!

Так могуць павучаць ды паводзіць сябе ў суседняй краіне, прабачце, хіба што толькі акупанты!

Аб гэтым нам, сапраўдным беларусам, нельга маўчаць, а трэба адкрыта, ва ўвесь голас не толькі гаварыць, але нават крычаць, калі мы сапраўды хочам быць гаспадарамі на дараванай нам Богам зямлі, калі мы ўвогуле не быдлам, а людзьмі звацца хочам.

На наша шчасце, дзякуй Богу, мы, здаецца, дажылі такога часу, што калі ўжо хто каго і нагне, то не заўсёды наб'е.

Спрабаваў жа Ірак захапіць (акупаваць) ды асіміляваць Кувейт?! Нешта падобнае ў гэтыя дні адбываецца і ў Косава. Аднак, не тыя цяпер часы...

Нам жа, беларусам, крышачку б больш клёпу-развагі, годнасці ды волі, і ўсё стала б на сваё месца. Змаглі ж адстаяць свае правы на самастойнае, незалежнае існаванне нашы суседзі — Літва, Латвія, Украіна, а таксама Эстонія?!

Сучаснае ж няпэўнае, да болю крыўднае, становішча Беларусі здзіўляе ўвесь цывілізаваны свет. Гэта ж трэба, каб такі абсурд у адносінах паміж народамі меў месца ў такі гістарычны час — сутык XX і XXI стагоддзяў, калі нават самыя маласлікія этнасы імкнуцца да запаветнай Незалежнасці! Да якой жа ступені дзікунства ды вар'яцтва трэба давесці народ, каб ён так разважліва сунуў галаву ў праклятае імперскае ярмо?! Хіба прадчуваем свой канец пад абломкамі імперыі?!

Зусім відавочна, што нам, людзям, належыць прытрымлівацца той гармоніі, якая спрадвеку існуе ў прыродзе, незалежна ад нашай волі. А там кожны звер альбо птушка, увогуле кожная жывая істота вядзе жыццё на свой аўтаномны спосаб і падае свае, толькі ёй уласцівыя, гукі (гэта ж іх своеасаблівая мова!), не асімілюючы пры гэтым слабейшых дужэйшымі.

Так, я, для прыкладу, за 73 гады свайго жыцця на гэтым свеце яшчэ ніколі не чуў, каб салавей, скажам, закукаваў альбо ластаўка закаркала. А акупаваным ды асіміляваным жа народам міжволі прыходзіцца „кукаваць" або „каркаць" менавіта на чужой мове. Вось чаму для глыбокага роздуму дарэчы тут будзе прывесці выдатны, праўдзівы, актуальны верш вядомага беларускага паэта, грамадзяніна, патрыёта Івана Пятровіча Чыгрына:

*Чужая мова, як іржа, —*
*Нас даканала без нажа.*
*Чужы закон, што згубны звон,*
*Адно вызвоньвае нам — скон!*

*Чужая воля правіць баль.*
*Чужая праўда красіць даль.*
*І неба іх. І цар у іх.*
*І служба ім усіх святых.*

Такім чынам здаровы чалавечы розум настойліва патрабуе, каб у чалавечым грамадстве адносіны паміж людзьмі, народамі, нацыямі, расамі, дзяржавамі грунтаваліся выключна на ўзаемаразуменні, узаемапаваге ды на вядомых Божых запаведзях.

Шавінізм жа ў розных яго праявах, як агідная з'ява чалавечага грамадства, цалкам зжыў ужо сябе. Яго месца — на сметніку гісторыі!

Перадсмяротныя натугі шавіністаў усіх масцей дарэмныя. Беларусь ужо не згіне!

**Алесь Ляскоўскі**

## Камуніста памяняў на кадэбіста

4 снежня Аляксандр Лукашэнка сваім указам ліквідаваў Міністэрства замежных спраў Беларусі, Міністэрства знешніх эканамічных сувязей і пасаду міністра па справах Садружнасці Незалежных Дзяржаў. У той самы дзень прэзідэнт Беларусі стварыў новае Міністэрства замежных спраў.

Такое рашэнне Аляксандр Лукашэнка патлумачыў тым, што Беларусь усё роўна не можа без Расіі вырашаць геапалітычныя міжнародныя пытанні. Галоўнай задачай новага МЗС павінна стаць пашырэнне знешнеэканамічных сувязей і павелічэнне экспарту.

Былога міністра МЗС Івана Антановіча, шматгадовага супрацоўніка кіруючых органаў камуністычных партый Беларусі і Расіі, які раней аддана служыў Вячаславу Кебічу, а затым Аляксандру Лукашэнку, прэзідэнт адправіў у адстаўку. Праўда, праз некалькі дзён кіраўнік Беларусі сказаў, што падбярэ экс-міністру добрае месца.

Кіраўніком новага МЗС Беларусі прызначаны Урал Латыпаў. Ён нарадзіўся ў 1951 годзе ў Башкірыі. З 1974 па 1989 г. служыў у КГБ СССР. Мае званне палкоўніка гэтай арганізацыі. З 1989 па 1994 год займаў розныя пасады ў інстытуце нацыянальнай бяспекі Беларусі. Стаў доктарам юрыдычных навук і прафесарам. З пачатку прэзідэнцкай кар'еры Аляксандра Лукашэнкі Урал Латыпаў працаваў яго памочнікам.

**(зк)**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Закалот вакол помніка

[1 ☞ працяг]

У канцы лістапада 1997 года Раённая ўправа горада Бельск-Падляшскі дае дазвол на пабудову помніка паводле прадстаўленага Камітэтам праекта.

— Мы былі ўпэўнены, што ўсе дзеянні вядуцца згодна з законам, — кажа Юзаф Антанюк. — У сакавіку мы заказалі ў каменячоса выкананне помніка. У канцы чэрвеня помнік меў ужо стаяць на магіле вазакоў. Урачыстае яго асвячэнне мы планавалі на ліпень гэтага года. Сталася аднак інакш.

***Увесь закалот прыдуманы***

Перашкоды пачаліся восенню мінулага года, калі ваяводам стала Крыстына Лукашук і памяняўся кіраўнік Раённай управы горада Бельск-Падляшскі. 20 чэрвеня г.г. Камітэт атрымлівае ліст ад магістра-інжынера Марка Лукашэвіча (новага кіраўніка раённай управы), дзе загадваецца спыніць пабудову помніка. Сваё рашэнне Лукашэвіч апраўдвае тым, што „realizacja wymaga zgody wojewody”. Дазвол свайго папярэдніка Лукашэвіч называе спрэчным з законамі. Неўзабаве Камітэт атрымоўвае наступны загад кіраўніка раённай управы. Гэтым разам Марк Лукашэвіч ставіць Камітэту закіды: праекту патрэбнае адабрэнне Рады помнікаў змагання і пакуты, згода ваяводскага рэстаўратара помнікаў, да 20 жніўня 1998 г. згода беластоцкага ваяводы.

— Пасля паўгадовай карэспандэнцыі, — кажа Юзаф Антанюк, — Ваяводскі рэстаўратар помнікаў паінфармаваў нас, што бельскія вайсковыя могілкі яму не падлягаюць. Яны не занесены ў рэестр помнікаў Беластоцкага ваяводства. А калі ідзе пра дазвол Рады помнікаў змагання і пакуты, дык яго (згодна з законам) павінен атрымаць або ваявода, або кіраўнік раённай управы. Мы тут ні пры чым. Увесь закалот прыдуманы, каб спыніць пабудову помніка. Чаму? Бо многім ён будзе калоць у вочы. Ідэя перапахавання і пабудовы помніка з самога пачатку супрацьдзейнічаў бельскі гурток ветэранаў АК. На вайсковым могільніку іх стараннем ў 1992-1994 гадах узнікае Польская крыжовая дарога (1777-1989) — помнікі, на якіх записаны трагічныя даты ў гісторыі Польшчы.

— Пабудавалі іх без ніякага дазволу, — кажа Юзаф Антанюк.

***Гістарычныя факты не аспрэчваюцца***

У чым тут справа? Адказ на гэтае пытанне падказвае наступная падзея. 15 кастрычніка пані ваявода Крыстына Лукашук запрасіла да сябе прадстаўнікоў Камітэта. У Беласток падаюцца Параскева Антасюк — старшыня Грамадскага камітэта, Аляксандр Бандарук — сакратар і Юзаф Антанюк. У час паўгадзіннай размовы ваявода Крыстына Лукашук падказвае „мірнае” завяршэнне справы. Праект помніка не падабаецца пані ваяводзе. Чытачу належыцца некалькі слоў паяснення адносна планаванага Камітэтам выгляду помніка. Ля кургана-магілы мелі стаяць тры гранітныя пліты. Самая вялікая, метр дваццаць вышыні, мела змяшчаць прозвішчы трыццаці вазакоў. На дзвюх бакавых (велічынёй па метры) прадбачвалася распіска прозвішчаў ахвяр крывавага маршруту аддзела „Бурага”, у выніку якога загінула аж 80 асоб, у тым ліку дзеці і жанчыны.

— Пані ваявода, — кажа Юзаф Антанюк, — дазваляла толькі на адну пліту — са спіскам памардаваных вазакоў. Ды і яна мела ляжаць, а не як хацелі мы — стаяць. Засцярогі былі накіраваны да зместу інфармацыі пра злачынства. Мы планавалі надпіс: 31.I.1946 R. ZOSTALI POMORDOWANI PRZEZ ODDZIAŁ ZBROJNEGO PODZIEMIA PAS-NZW kpt ROMUALDA RAJSA ps. „BURY”. Крыстына Лукашук параіла выкінуць „PRZEZ ODDZIAŁ ZBROJNEGO PODZIEMIA”. Сваё рашэнне адносна завяршэння помніка абяцала даслаць нам на пісьме да канца кастрычніка г.г. Па сённяшні дзень мы яго не атрымалі.

— Як успрыняў прапановы пані ваяводы Камітэт? — пытаю.

— Мы засталіся пры сваім. У ніякім законе не гаворыцца пра вызначэнне помніка. Камітэт не можа пагадзіцца з прапанаванымі нам зменамі. Нашым маральным абавязкам з'яўляецца абарона памяці нявінна памардаваных людзей, — кажа Юзаф Антанюк. — І гэта нас павінны перапрасіць за злачынства! Гістарычныя факты не аспрэчваюцца.

— Dziwię się, że Komitet czeka na nasze pismo, — кажа Тамаш Сурыновіч, прэс-сакратар беластоцкага ваяводы. — Przecież 18 listopada br. otrzymaliśmy od nich oświadczenie, że nie wyrażają zgody na proponowane przez panią Wojewodę zmiany.

— А хто заплаціць за фінансавыя патраты, звязаныя са спыненнем пабудовы помніка?

— Nie wiem, — кажа Тамаш Сурыновіч.

**Ганна Кандрацюк**

# Куды прадаваць малочныя прадукты?

**Не хочуць купляць нашых малочных прадуктаў у заходнееўрапейскіх краінах, нядаўна з-за гаспадарчага крызісу перасталі купляць на ўсходзе, і ў многіх малочных прадпрыемствах узніклі клопаты з продажам сваіх прадуктаў, — кажа старшыня Управы Раённага малочнатаварнага кааператыва ў Гайнаўцы Андрэй Прызовіч. — Прадукты, якія хочам прадаць, трэба вырабляць з якаснага малака, таму і высокія нашы патрабаванні і новыя нормы.**

Раённы малочнатаварны кааператыў у Гайнаўцы скупляе малако з тэрыторыі былога Гайнаўскага павета і гміны Мілейчычы і прымае каля 40 мільёнаў літраў малака ў год. Працуе ў ім больш за 240 асоб, але ёсць і сезонныя працаўнікі. Цвёрдыя сыры і тварагі гэта галоўныя прадукты кааператыва, але толькі 10% іх распаўсюджваюцца на Гайнаўшчыне, а многа ідзе на Шлёнск, у Варшаву, Шчэцін, Гданьск, Калобжаг, Кракаў і Вроцлаў. На экспарт ідзе толькі сухое малако, якое праз заходнееўрапейскія краіны трапляе галоўным чынам у Афрыку.

— Раней прадавалі мы каля 2 000 тон сухога малака, а зараз няма пакупнікоў і паменшылі прадукцыю да 700 тон, — гаворыць старшыня Управы Андрэй Прызовіч. — Выпускаем у год 1 800 тон цвёрдага сыру, сярод якога найлепш прадаецца „Эдамскі”, „Падляшскі”, „Гоўда”, ну і свой, „Белавежскі”. Прадаем таксама каля 1 600 тон у год тварагу. Прадукцыя малака невялікая, 3 мільёны літраў у год і разыходзіцца яно на Беласточчыне. Рэклама маргарыну паўплывала таксама і на меншае запатрабаванне на масла. Цяпер выпускаем яго 800 тон у год. Сярод іншай прадукцыі цікавая справа з маслёнкай, якую прадаем ажно ў Кракаў. Частку сваёй прадукцыі прадавалі мы праз пасрэдніцтва Кааператыва таварнага абмену з Беластока ў Расію, але пасля гаспадарчага крызісу ў іх экспарт спыніўся. У гэтым годзе малочных прадуктаў не купляла таксама Агенцтва сельскагаспадарчага рынку і трэба паніжаць цэны на свае прадукты і шукаць новыя рынкі збыту. Усё гэта мае непасрэдны ўплыў на цану малака, якое скупляем у гаспадароў. Паколькі няма ў нас, як на Захадзе, датацыі — гаспадары нашы бяднеюць, а некаторыя адмаўляюцца пастаўляць малако.

Да Раённага малочнага кааператыва ў Гайнаўцы належыць 61 пункт скупкі малака, а з 20 вёсак забіраюць малако непасрэдна ў спецыяльныя машыны. Паводле нормы, якой трымаліся ў Кааператыве ў гэтым годзе, малако трэба было ахалоджваць да тэмпературы 11°C, але ў наступным годзе трэба будзе студзіць да 8 градусаў. Хаця зараз у малачарнях 11 халадзільных рэзервуараў, думаюць купіць у наступным годзе, яшчэ перад ацяпленнем, 21 новы. У тых вёсках, у якіх будуць халадзільныя рэзервуары, будзем прымаць малако два разы на дзень, каб гаспадар мог прынесці яго хутка пасля даення. Каб малако было якаснае і было ў ім як найменш бактэрый, трэба захоўваць чысціню і як найхутчэй ахаладзіць яго, — тлумачыць Андрэй Прызовіч. — Што тычыцца чысціні, дык гаспадары хутка дастасоўваюцца да нормаў. Калі яшчэ ў ліпені г.г. палову малака куплялі мы як трэці клас, то ў лістападзе трэцяга класа было менш чым 20%, а больш чым 50% — гэта быў прадукт экстра- і першага класаў. Думаем, што малако трэцяга класа прымаць будзем яшчэ недзе да 2000 года, але эканамічны рахунак зробіць сваё яшчэ і раней. У сярэднім літр малака каштуе нас 60 грошаў, але на цану мае ўплыў і ўтрыманне тлушчу і бялкоў, а перад усім яго клас. За другі клас даплачваем 5 грошаў, за першы — 10 грошаў, а за экстра — 18 грошаў. Ёсць у нас цяпер і апаратура, якая вельмі дакладна паказвае ўтрыманне вады ў малаку, бо здаралася раней, што некаторыя гаспадары далівалі ваду. Аднаму гаспадару даказалі, што даліў ажно 40% вады, а колькі было такіх, што далівалі па 20%! Калі першы ці другі раз даказалі пастаўшчыку, што ў яго малаку ёсць вада, давалі трэці клас і тлумачылі, каб гэтага не рабіў, але за трэцім разам пераставалі прымаць ад яго малако і толькі пасля спецыяльных прашэнняў і заяў зноў пачыналі купляць.

У Кааператыве паінфармавалі, што Гукавічы, Карыцкіска, Дубічы-Царкоўныя, Старое Беразова, Махнатае, Старыя Корнін — гэта вёскі, адкуль гаспадары прыносяць малако найвышэйшага класа. Якраз у гэтых вёсках многа маладых гаспадароў, у якіх больш кароў і свае халадзільныя рэзервуары. Аднак калі не павысіцца цана малака, наўрад ці і ў гэтых вёсках будзе развівацца гадоўля кароў.

**Аляксей Мароз**

# Інвестыцыі Тэлекамунікацыі на Гайнаўшчыне

Другі ўжо год прадпрыемства Тэлекамунікацыя польская С. А. працягвае свае інвестыцыі на Гайнаўшчыне. У мінулым годзе пабудаваны быў святлапровад з Бельска-Падляшскага ў Гайнаўку і ў снежні пачала працаваць лічбовая тэлефонная станцыя. У гэтым годзе пабудаваны былі святлапроводы ў напрамку Чаромхі, Нарвы і Нараўкі і пачалі працаваць лічбовыя тэлефонныя станцыі ў Нарве, Нараўцы, Старым Ляўкове, Семяноўцы, Белавежы, Трасцянцы, Ласінцы, Чаромсе, Ягадніках, Дубічах-Царкоўных, Кляшчэлях, Чыжах, Новаберазове і Навасадах.

— Калі мы паставілі ў Гайнаўцы новую лічбовую станцыю, рэалізавалі ўсе ранейшыя прашэнні і падключылі тэлефоны ўсім ахвотным. Зараз у Гайнаўцы няма такога месца, дзе не маглі б мы падключыць тэлефон, — гаворыць Пётр Карпюк, дырэктар Раённага аддзялення Тэлекамунікацыі ў Гайнаўцы. — Перад інвестыцыямі было ў нас 3 200 абанентаў, зараз больш чым 6 000, а можна падключыць больш чым 8 000 нумароў і яшчэ разбудоўваць. Новая станцыя ліквідавала перабоі ў размовах, якія сталі больш якаснымі. Што тычыцца сеткі святлаправодаў у ваколіцы, дык Гайнаўка падключана будзе праз Сямятычы і Семяноўку і калі б была нейкая аварыя на лініі Гайнаўка — Бельск-Падляшскі, то адразу пачне працаваць святлапровад праз Семяноўку або Сямятычы. Толькі святлапроводы далі магчымасць падключыць лічбовыя станцыі ў ваколіцы і ліквідаваць усе ручныя і аналагавыя. Да новых тэлефонных станцый падключаных было каля 1 500 абанентаў з ручных станцый і зараз рэалізуюцца прашэнні жыхароў тых вёсак, куды пракладзена тэлефонная сетка.

— У 1999 годзе будзем весці інвестыцыі выключна па вёсках. Будзем класці новыя кабелі і прыстасоўваць цяперашнія да працы ў новай сістэме, — кажа дырэктар Пётр Карпюк. — Была прапанова хуткай тэлефанізацыі вёсак, маючы на ўвазе грамадскія камітэты, але зараз ніводная вёска гэтай прапановай не пакарысталася. Даўней такім спосабам уводзілі мы тэлефоны ў Збучы, Моры, Сліваве, Тафілаўцах, Рагазах-Іванках, Лешуках, Міхнаўцы і Міклашэве. Жыхары згаданых вёсак уплачвалі грошы, за якія пракладалі мы тэлефонную сетку, а пасля звярталі іх, улічваючы авансам у абанемент. Цяпер думалі збіраць ад людзей па 700-1000 зл., палову якіх мелі вярнуць ім пасля пастаўкі тэлефона. Паколькі людзі не пакарысталіся гэтым спосабам тэлефанізацыі, будзем падключаць тэлефоны за сродкі нашага прадпрыемства, звяртаючы ўвагу на тэхнічныя і фінансавыя магчымасці. Да канца года думаем падключыць яшчэ каля 500 новых абанентаў. Цяпер за падключэнне тэлефона трэба заплаціць 488 злотых і купіць тэлефонны апарат, сярод якіх самы танны каштуе недзе 60 зл., але ёсць і па 1 000 зл., якія дазваляе размаўляючаму па тэлефоне чалавеку адысці ад хатняй станцыі да трохсот метраў.

**Аляксей Мароз**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Літоўскае права на заходніх рубяжах Вялікага княства Літоўскага

Ва ўступе трэба было б адзначыць, што Вялікае княства Літоўскае — гэта геаграфічны абшар часткі Цэнтральна-Усходняй Еўропы, а сама Цэнтральна-Усходняя Еўропа — гэта Рэч Паспалітая Абодвух Народаў ды Венгерская Карона са Славакіяй і Малдавіяй.

Насуперак меркаванняў і ранейшых сцвярджэнняў навукоўцаў трэба сказаць, што гісторыя і культура Цэнтральна-Усходняй Еўропы недастаткова вядомыя. У нязначнай ступені вывучана заканадаўства і юрыдычныя інстытуты, а таксама абсяг уздзеяння заканадаўства на ход цывілізацыйнага развіцця гэтай часткі Еўропы, асабліва Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, у тым ліку і Вялікага княства Літоўскага.

Вялікае княства Літоўскае — гэта кампанент колішняй Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, так як і Польшча.

У гэтым месцы малое адступленне — палякі стагоддзямі лічылі Рэч Паспалітую Абодвух Народаў сваёй „дзяржавай" і глядзелі на яе з перспектывы ўласных нацыянальных інтарэсаў. Паводле маёй гістарычна-юрыдычнай ацэнкі справа выглядала інакш. Рэч Паспалітая Абодвух Народаў у сваёй аснове была на роўных правах дзяржавай палякаў, літоўцаў, беларусаў, украінцаў, немцаў з Каралеўскай Прусіі, яўрэяў, армян, татараў, караімаў, рускіх...

Рэч Паспалітая Абодвух Народаў — гэта тыгель культур і тэрыторыя рэлігійнага і моўнага сутыкнення.

У такім тыглі разнароднасці пачынала фарміравацца адзінства і гэтае адзінства ўдалося стварыць дзеля дабра ўсіх грамадзян. Для гэтай мэты паслужылі не дысцыпліна, не страх, але юрыдычныя інструменты. Правa і юрыдычныя інстытуты падзейнічалі такім чынам, што нават сёння многія людзі не разумеюць, чаму народы, якія насялялі тэрыторыю Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў жадалі да канца жыць у адной дзяржаве. Сёння, наглядаючы за развалам Савецкага Саюза, дабравольным развалам, можам інакш, чым гэта робяць заходняя і ўсходняя гістарыяграфіі, паглядзець на развал Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Трэба выразна адзначыць, што Рэч Паспалітая Абодвух Народаў не развалілася дабравольна і знутры. Нават у момант упадку Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў трэба было вонкавай сілы трох вялікіх еўрапейскіх дзяржаў, каб яе знішчыць. Развалілася дзяржава — „Рэч Супольная" — змянілася кіраўнічая ўлада над тэрыторыяй, але не ўпала заканадаўства, якое на заходніх рубяжах Вялікага княства Літоўскага абавязвае далей і ў галіне спадчыннага права прымяняецца цяпер. Ці ж гэта не феномен?

А гэта той феномен, які патрабуе новага еўрапейскага погляду.

Заканадаўства Вялікага княства Літоўскага для аб'ядноўваючайся Еўропы можа стаць сёння капітальным вопытам як даваць свабоду, як ствараць дэмакратыю. Давайце прыпомнім, як вялікія манархі Вялікага княства Літоўскага супольна са сваімі канцлерамі ствàралі права. У выніку абнясця межамі Вялікага княства Літоўскага аграмадных рускіх тэрыторый літоўскае права, якое пачаткова асноўвалася на ўласным звычаі, пачало вырастаць галоўным чынам на даўнім рускім праве і было яго працягам. У Вялікім княстве Літоўскім пасля Гарадзельскай уніі і дачыненнях з Каронай дайшло — чаго не заўважаюць навукоўцы — да юрыдычнага сутыкнення заходняй цывілізацыі, традыцыі Рускай Праўды і юрыдычна-звычаёвых балцкіх элементаў. У гэты юрыдычны тыгель — дадайма — ўлілася яшчэ Русь, на якую ўздзейнічала цывілізацыя Візантыі з дасканалай кадыфікацыяй права, праведзенай імператарам Юсцініянам.

Візантыйскае права — кадыфікаванае права — гэта была ідэя, якая ажыццяўлялася ў Вялікім княстве Літоўскім з вялікім размахам.

Пачатак XVI стагоддзя. Кадыфікацыйныя памкненні так на захадзе Еўропы, як і ў Кароне не далі станоўчых вынікаў. Затое ў Вялікім княстве Літоўскім жаданне кадыфікаваць права здзейснілася пад назвай Статутаў літоўскіх — першага, другога, трэцяга, складзеных на дзяржаўнай старабеларускай мове.

Тады быў гэта першы і адзіны, і па меры поўны кадыфікацыйны твор. Гэтага Еўропа і Карона яшчэ не ведалі.

Першы Статут літоўскі, складзены ў 1522 г., набыў юрыдычную сілу ў 1529 г. У 13 раздзелах, падзеленых на 244 артыкулы, змешчаны былі палажэнні публічнага, прыватнага і працэсуальнага права, а разам з г.зв. Судзебнікам Казіміра Ягелончыка ад 1468 г. з'яўляліся яны асновай правасуддзя Вялікага княства Літоўскага. Першы Статут абапіраўся ў асноўным на звычаёвым праве, Рускай Праўдзе і ранейшых шляхецкіх прывілеях. У першым статуце былі дапушчаны прабелы, якія з цягам часу выпраўляліся шляхам г.зв. паправы статуту. Неўзабаве паўстала новая рэдакцыя статуту, якая абавязвала ад 1566 г. як другі Статут літоўскі. У ім знаходзілася 368 артыкулаў у 14 раздзелах і некалькі прывілеяў. Змены ў грамадскіх адносінах і Люблінская унія выклікалі неабходнасць перапрацаваць статут, у выніку чаго паўстаў трэці Статут літоўскі, зацверджаны каралём са згоды Сейма ў 1588 годзе. Змяшчаў ён 488 артыкулаў. Трэба адзначыць, што Статуты літоўскія былі ўзорам для пераймання і стварэння права ў Кароне. Асабліва ў працы Каронната трыбунала часта спасылаліся на трэці Статут літоўскі. Пасля Люблінскай уніі, насуперак далучэння да Кароны ўкраінскіх земляў — у Валынскім, Брацлаўскім і Кіеўскім ваяводствах абавязвала літоўскае права ў адмысловай рэдакцыі званае Статутам валынскім. Пазнейшае казацкае права было ідэальным адлюстраваннем літоўскіх правоў і прывілеяў Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў.

Прывілеі, апрача запэўнення шляхце спецыяльных правоў, гарантавалі правa для яўрэяў, армян, татараў, мяшчан, сялян і для Касцёла. Можна сказаць, што літоўскія статуты зрабілі грамадзян Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў цывілізаванымі, стварылі аснову палітычнага жыцця. Грамадзяне гэтай часткі Цэнтральна-Усходняй Еўропы вучыліся як карыстацца заканадаўствам гэтай дзяржавы, як ствараць законы, як весці пасяджэнні сеймікаў, як ствараць самаўрад. Ужо тады ўсе грамадзяне Вялікага княства Літоўскага вучыліся дэмакратыі. Вучыліся гэтага і прымянялі на практыцы тое, да чаго імкнецца сённяшняя Еўропа. Асноўныя прынцыпы літоўскага права, іх прымяненне ў літоўскім і каронным судаводстве дало ўсім грамадзянам вялікае пачуццё свабоды. Увогуле сярод усіх слаёў грамадства Рэчы Паспалітай панавала нежаданне прымяняць насілле ў палітыцы і іншых сферах дзейнасці.

Статуты літоўскія і дух талерантнасці вырашылі, што Рэч Паспалітая ў 1573 г. ухваліла Варшаўскую канфедэрацыю, якая гарантавала свабоду іншаверцам. Здарылася гэта ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе ў той час, калі на Захадзе лютавала інквізіцыя, панаваў тэрор, а злачынцы падвяргаліся катаванню. У Рэчы Паспалітай здзекі былі забаронены законам і іх прымяненне пагражала смерцю. Гэта Заходняя Еўропа павінна вучыцца талерантнасці і дэмакратыі з літоўскіх правоў. Вучыцца сёння, але мы, спадкаемцы насельніцтва Цэнтральна-Усходняй Еўропы, маем гэтае ў крыві, замацаванае ў генах.

Ягелоны дбалі пра заканадаўства, шанавалі права і кіраваліся правам. У якасці прыкладу можна прывесці вялікую аграрную рэформу, праведзеную ў Вялікім княстве Літоўскім, вядомую як „Валочная памера". Было гэта ў 1557 г., а яе вынікі да сёння бачны на заходніх рубяжах Вялікага княства Літоўскага, асабліва ў г.зв. Беластоцкай вобласці. Юрыдычныя інструменты рэгулявалі гаспадарку. Калі Жыгімонт Аўгуст у Кнышыне ўстанаўліваў права для бортнікаў ці лесніκаў, то ў сённяшнім паняцці ён распрацоўваў г.зв. лясныя, водныя і дарожныя законы ў галіне аховы асяроддзя. Дзякуючы гэтым законам на заходніх рубяжах Вялікага княства Літоўскага да сённяшняга дня захаваліся вялікія лясныя абшары — Белавежская, Кнышынская і Аўгустаўская пушчы.

*(заканчэнне будзе)*

**Пятро Юшчук**

# Я — вораг адмоўнага

Спачатку хачу я запэўніць Мікалая Панфілюка, што не з'яўляюся ягоным ворагам. Але павінен ён памятаць, што на адну справу можа быць некалькі пунктаў гледжання. Калі б я ведаў, што палічаць мяне ворагам Мікалая Панфілюка, то ці пісаў бы я ў „Ніву" палемічныя карэспандэнцыі? Напэўна над гэтым задумаўся б. Ніхто не хоча быць ворагам от так сабе. Я ж асабіста Мікалая Панфілюка не ведаю. З другога боку трэба ўлічваць і той факт, што кожны карэспандэнт, публіцыст, літаратар, журналіст, паэт свае думкі выказвае публічна і тым самым выносіць іх на суд чытачоў. Затым як быць, калі хто ім супраціўіцца, будзе іхным ворагам? Чым затым з'яўляецца дэмакратыя?

Людзі па-рознаму рэагуюць на крытыку сваіх поглядаў. Калі палеміку вядзе АВС і СЛД, карыстае на тым не толькі дэмакратыя, але і дзяржава, а нават наша беларуская меншасць. Можна лёгка ўявіць, што было б, калі б у дзяржаве панаваў ЗХН — той ксенафабічны, беластоцкі. Тады, хоць уцякай з краіны. А так маем магчымасць нават друкаваць свае думкі ў „Ніве". Чаму ж такі крык падняўся ў Беларусі, калі мела паўстаць радыё „Вольная Беларусь"? Таму, што нават рок-музыка перашкаджае таталітарызму Лукашэнкі. Хто крытыкуе погляды Лукашэнкі, з'яўляецца не толькі яго асабістым ворагам, але і ворагам дзяржавы.

Так бывае, калі бракуе элементарнай дэмакратыі і свабоды выказвання думак. Гэта вядзе проста да дыктатуры, найсамперш да адзіных поглядаў — аднадумных, а потым дзяржаўных законаў, якія пільнуюць, каб не паявіліся іншыя. Бярэцца ўсё гэта з таго, што нялёмка сказаць, што знакаміты карэспандэнт з Дубіч-Царкоўных, заслужаны для беларускай справы, не мае рацыі, калі ганіць немцаў, а хваліць рускіх, адных за І і ІІ сусветную, а другіх — што гэта нашы браты. Моцна абурыўся Грыша Мароз, калі заўважыў я, што сяляне толькі наракаюць. Наракаюць не толькі сяляне, але і пенсіянеры, і ўраднікі. Людзі за штодзённымі клопатамі не заўважаюць, як якасна змянілася жыццё на нашых вёсках. Пэўна, што ёсць многа бяды, але гэта я прыязджаю на Беласточчыну цягнікам і аўтобусам, і гэта я не дарабіўся ні дачы, ні маёнтку.

Чытачы пэўна памятаюць мае крытычныя заўвагі да адносін БГКТ да Лукашэнкі, калі выкарыстоўваў ён палітычную наіўнасць кіраўніцтва гэтай арганізацыі для сваёй барацьбы з дэмакратычнай апазіцыяй. Думаеце, што лёгка быць ворагам не толькі ніўскага карэспандэнта, але і заслужанага для беларусаў Беласточчыны БГКТ, ці суседа са Старога Беразова? Пэўна, што лепш жыць сярод сяброў, але калі будуць далей публікавацца палемічныя тэксты і графаманскія вершы, я — вораг дурнаты, ксенафобіі, таталітарызму і ўсяго зла, — маўчаць не буду.

**Міхась Куптэль**

# Асвета для багатых

[1 ☞ працяг]

ныя студэнты стануць ураднікамі, лекарамі, эканамістамі і, што найгорша, таксама настаўнікамі. Ужо цяпер афармленне чаго-небудзь у адміністрацыйнай установе патрабуе ад наведвальнікаў жалезных нерваў. Да медыкаў ёсць толькі тады сэнс ісці, калі чалавек распараджаецца адпаведнымі фінансавымі сродкамі. Ад некалькіх гадоў у шпіталях месца толькі купляюцца, зразумела, не атрымоўваючы ніякай квітанцыі. Пра сітуацыю ў школах шкада нават успамінаць. Неўзабаве ў гэтых установах дамінаваць будуць супрацоўнікі, якія, паводле дыпломаў, былі самымі выдатнымі студэнтамі. Некаторыя будуць таксама глыбока верыць, што яны сапраўды надзвычайна здольныя. Амаль усе прафесары, якія іх вучаць, пастаянна іх у гэтым пераконваюць.

Нядаўна меў я нагоду чытаць магістэрскую працу, напісаную студэнткай аднае беластоцкай завочнай вышэйшай навуковай установы. Рэцэнзенты ацанілі яе як выдатную і ўсе згодна паставілі пяцёрку. Пачынаецца яна: „Białorusini — to taki naród, który wymyślono w XVI wieku".

**Яўген Міранoвіч**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Паэтычны ларок

## Мой родны край

Любы майму сэрцу
родныя мясціны.
Мне тут усё знаёма —
узгоркі і даліны.
Знаю ўсе сцяжынкі,
знаю ўсе дарожкі,
па якіх у дзяцінстве
беглі босы ножкі.
Лужок, у якім маці
палатно мачыла,
слала над вадою,
каб сонца збяліла.
Люблю, калі ў полі
збожжа вырастае,
калі залацісты
колас налівае.
А лес, багатыр наш
шуміць і гамоніць,
прызывае ў нетры,
званочкамі звоніць.
Кожны, хто захоча,
ягад назбірае;
іх цэлае лета
ўсім людзям хапае.
Прыемна хадзіць мне
ў лес па грыбочкі,
дзе шчэбетных птушак
чую галасочкі.
Усюды, дзе ні гляну
і дзе ні бываю,
цешуся: жыву я
ў сваім родным краю.

Марыя Манаховіч

## Нельга

Нельга нам
асімілявацца
і да свайго роднага
не прызнавацца!
Не можам мяшацца
з чужым натоўпам
незалежна якім коштам.
Будзем цвёрды,
як скала гранітная.
Няхай да роднага
цягнуць нас
полюсы магнітныя.
Наш край родны
і мова не загінуць.
А ад сэрца „я”
і слабасць нам адкінуць!

Мікалай Панфілюк

## Між намі

Між намі ўсё прайшло.
Між намі толькі мгла
І крыкі жураўлёў,
Цёмныя хмарыскі, дажджы,
Прымаразак першы і вятры.
Хоць вясне й лету
Зноўкі вярнуцца,
Нашы дарогі
Ужо не збягуцца.

Аўрора

## Сванечкі

Я і Маня — мы дзве сванечкі,
Пілі квас з аднае *банечкі*.
Нашы дарогі скрыжаваліся
Як нашы дзеці закахаліся.

Мая родная дачуня,
Як царэўна прыгажуня
І Мані сын-маладзец.
Захацелі пад вянец.

Усё рабіла наша Манька,
Каб не стала я ёй сванькай:
І варажыла, і чаравала,
А дзяцей не разагнала.

На маю дачку крычала,
Што ў сына розум адабрала.
Я таксама не хацела,
Каб дачка туды ўляцела.

Яны на нас не зважалі, —
Як галубкі буркавалі.
Пажаніліся нашы дзеткі
І жывуць сабе як кветкі.

Хаця жыць ім цяжкавата
Ёсць у іх ужо свая хата
І двое дзетак яны маюць
І так без нас пражываюць.

А у Манінай зноў хаце
Хіба нейкае пракляцце:
Дачка — хай яе халера,—
Прывалакла кавалера!

Цяпер Маня ім сакоча,
Бо зяця яна не хоча.
І хаця ходзяць дзесяць год,
Маня робіць ім развод!

І цяпер наша Маруся,
Ой, дурная галава,
Не чапляецца нявесткі
Бо ўжо зяць у яе — *дурман*!

Ніна Мінько

## Пажаданні

Пажаданні ў Новым годзе,
Дарагія, усім Вам шлю,
Хто ў дзяржаве пражывае,
Каму край наш дарагі.

Каб шчасліва ўсім жылося,
Радасць мелі на душы,
Каб Вы гора не спазналі,
А ў багацці каб жылі.

Хто кіруе нашай уладай,
Каб аб гэтым памятаў:
Дабрабыт трэба стварацi
Нават бедным жабракам.

Дзеячы ў нашай краіне
СЛД ці АВС —
Шчасця ўсім я Вам жадаю
Ды здароўя цэлы век.

Можа Ты сабе прыпомніш,
Што край трэба ратаваць,
Не так хутка, а без спешкі
Ў тую Унію яго пхаць?..

Мікалай Лук'янюк

## Сэрца

Ой, баліць сэрца бабулі маёй,
Ой, баліць сэрца...
Столькі пражыла яна гадоў,
Ды не хочацца ўмерці!
Ой, успомніць бабуля былое,
З мінулых нашых часін,
Убачыць вось поле бою,
Хлопцаў, дзяўчат і мужчын...
Ой, баліць сэрца ў бабулі маёй
Да тых спеваў у полі,
Да музыкі сэрцу дарагой,
Да нашае долі, нядолі...
Ой, баліць тое сэрца з надзеяй,
Што хутка перастане,
Бо збажына ў полі спее
І нашчадак у полі стане.

Юрка Буйнюк

# Новы год на парозе

Новы год на парозе, і каб мы ў дарозе крочылі спакойна, адважна і пільна ды жылі ў любові, усе дружна і мірна. Няхай нас наша дарога вядзе ўсіх да жывога Бога. Хай жыве беларускі народ і цэлы наш славянскі род!

Ніколі не сварыцеся, да Бога ўсе маліцеся. Ён нам дасць блаславенне на Новы год. Весяліся, наш народ!

Мы — малая Айчына. Будзьма бадзёрымі малайчынамі. Кожны наш брат-чалавек хай у радасці ўвесь век. Каб шчасце цябе не мінала, тваё сэрца шанавала мову сваю і „Ніву”! Не будзьма баязлівымі! Не падайма духам, калі гора. Так спявайма ўсім хорам: „Мы жылі і жыць мы будзем, сваё слова не забудзем!”

Будзе ўсяго ў гэтым годзе. Усім нам ісці ў карагодзе. Разам пераможам нападкі ліхога, калі трымацца нам слова жывога.

Весяліся, родны люд! У Новым годзе — новы труд. Будзе плённы і шчаслівы нам, аратаям на ніве.

Мікалай Панфілюк

## Цень

Праследуе мяне мой цень.
Не адступае ні на крок.
Ён як вораг або здраднік
Так цікуе ўсё за мной.
Аглянуся за сабою —
Што ж ён мае да мяне?!
І так думаю я ў ляку:
Як мне весці барацьбу?
А ён кажа:
Ты, мой ценю,
Што ж ты топчашся па мне?!

Андрэй Гаўрылюк

## * * *

Духовае ў людзей здранцвенне.
Якое ж будзе ім збаўленне?
Адыходзяцца гурбой ад Бога
І гуртом бягуць да Злога.
Адкінулі святло з неба.
Ім падумаць добра трэба,
Што ў іх сэрцаў скамяненне,
Поўны параліч сумлення,
Брак ахвоты пазнаць Праўду,
Даравацъ правіны брату.
Шчэ апошняе прызванне
І ўзнагарода-абяцанне.
Выйдзі з свету, людзе мой,
За цябе вядзецца бой.

Зіна Лукша-Кавалевіч

# Пушча ў вершах

Творчасці Барыса Руско я спадарожнічаю ад пачатку 90-х гадоў. Завязанае з паэтам сяброўства дазваляе мне быць „хросным бацькам” амаль усіх вершаў і сентэнцый, якія выходзяць з-пад яго пяра. Ведаю пра акалічнасці, у якіх узнікаюць чарговыя творы, часам сам бываю іх непасрэдным сведкам і ўдзельнікам. Мне заўсёды цікава, як даную сітуацыю ператворыць у літаратурны твор Барысава падсвядомасць. Ніколі не расчароўваюся. Барыс — майстар метафар. Яны ў яго свежыя, арыгінальныя, а заадно вельмі вобразныя. Лёгка запамінаюцца.

Я быў таксама сведкам дэбюту Барыса Руско. Ён, хаця пісаў вершы даўжэйшы час, зусім не думаў пра іх апублікаванне. Яму проста на гэтым не залежала. За намовай сваіх сяброў аднак пераламаўся. Георгій Валкавыцкі ўвёў яго на старонкі „Нівы”. Сталася гэта ў 1992 годзе. Потым вершы і сентэнцыі Барыса пачалі паяўляцца ў шматлікіх польскамоўных часопісах, так рэгіянальных, як і агульнакраёвых. У даны момант мне самому ўжо цяжка пералічыць усе выданні, у якіх друкаваліся ягоныя творы. Тым больш, цяжка пералічыць самыя надрукаваныя творы. Іх лік ідзе ў сотні.

Усё ж, аўтар уваходзіць у літаратурнае абарачэнне, перш за ўсё, дзякуючы апублікаваным зборнікам сваіх твораў. Барыс Руско быў ужо настолькі спелым творцам, што ніхто не сумняваўся ў тым, што яму свая кніжачка належыцца без аніякага „але”. Насустрач аўтару выйшаў Белавежскі асяродак культуры, які супольна з Надлясніцтвам Белавежа ўзяўся выдаць зборнік, у які ўвойдуць вершы прысвечаныя ці інспіраваныя Белавежскай пушчай. Малюнкі да кніжачкі выканаў Лех Навацкі, тагачасны дырэктар ГОКу. Уся справа пачалася ў 1996 г., але чарга неспадзяваных, непрадбачаных сітуацый давяла да таго, што той жа зборнік пабачыў свет толькі сёлетняй восенню.

У „Кліч у Белавежскай пушчы”* ўвайшлі 74 вершы. Зборнік адчыняе рэцэнзія Вальдэмара Смашча, вядомага польскага літаратурнага крытыка. Яна вельмі прыхільная аўтару. В. Смашч падкрэслівае, што хаця ўсе вершы прысвечаны адной тэме, то яны не манатонныя. Наадварот, можна гаварыць аб іх вялікай разнароднасці. Падкрэсліваецца крытыкам і вялікая ўмеласць аўтара ў мастацтве вобразнасці.

В. Смашч называе і іншыя вартасці творчасці Барыса Руско. Я ў сваю чаргу хачу звярнуць увагу на тое, што згаданы зборнік з'яўляецца першай паэтычнай кніжкай поўнасцю прысвечанай Белавежскай пушчы. Гэта важны культурны факт. Так у літаратуры, як і ў гісторыі пушчы. Добра было б, каб хтосьці ахвяраваўся і пазбіраў усе апублікаванья, але параскіданыя па розных часопісах і зборніках творы прысвечаныя белавежскай жамчужыне і склаў з іх асобны том. Барыс Руско нейкім чынам працёр дарогу.

Першы томік Б. Руско выйшаў тыражом у 500 паасобнікаў. Зараз аўтар падрыхтаваў да друку новы зборнік п.з. „Поўзанне па Цішыні”, у якім прадстаўляе розныя плыні сваёй паэтычнай творчасці. У добры час, сябра!

Пётр Байко

* Borys Russko, *Wołanie w Puszczy Białowieskiej*, Białowieski Ośrodek Kultury, Nadleśnictwo Białowieża, Białowieża 1998, ss. 87, il.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



## З Новым годам

Год за годам — карагодам,
І ўжо сёння з Новым годам
Я сардэчна, ад душы
Вас віншую, малышы!
А чаго ж я вам жадаю?
Зараз, зараз прыгадаю...
Каб бадзёрымі былі вы,
Каб разумнымі раслі вы,
Каб прынёс вам Новы год
Многа радасных прыгод.
І здароўя ў вашы хаты, —
Каб былі здаровы самі,
Каб былі здаровы мамы,
Каб былі здаровы таты,
Каб не ведалі напасці,
Каб і я за вас быў рад.
З Новым годам!
З новым шчасцем!
Вас віншуе дзед Кандрат.

**Кандрат Крапіва**

# У VI „а" вылучаюцца дзяўчаты




*VI „а" з бельскай „тройкі".*

Сёння пазнаёмімся з вучнямі VI „а" класа, што ў бельскай „тройцы". Амаль усе шасцікласнікі падпісваюцца на „Зорку". Многія з іх ужо з чацвёртага класа пастаянныя чытачы нашай газеты.

— Найбольш любім крыжаванкі, вершы Віктара Шведа і артыкулы Жанэты Ролі, — кажуць мае новыя сябры.

— Хто з вас за гадзіну здолее прачытаць цэлую „Зорку"?

У адказ многія шасцікласнікі паднялі ўгору рукі.

— Сапраўды, — кажа Міраслава Маркевіч, настаўніца беларускай мовы. — Тут многія акуратна і хутка чытаюць па-беларуску. Вось, на той прыклад, Гося Паўлючук. Яна нават хутчэй як за гадзіну прачытае поўныя дзве старонкі.

У VI „а" 26 вучняў. Выхавацелькай Ірэна Яблушэўская. Шасцікласнікі прадставілі таксама сваіх класных кіраўнікоў. Старастам тут дзяўчына — Юліта Малеўская, а яе намеснікам — Пятрусь Евец. Дарэчы, варта адзначыць, што ў класе найбольш вылучаюцца дзяўчаты. Яны пераважаюць сярод выдатнікаў па беларускай мове. Тут трэба назваць Марту Супранюк, Наталлю Альштынюк, Малгажату Паўлючук, Эву Кудэрскую, Галену Старчэўскую і Юліту Малеўскую. Гонар мужскога полу абараняюць: Пятрусь Сегень, Пятрусь Евец, Дарак Андрасюк і Тамаш Лукашук.

— У нашым класе слаўны спартсмен, — кажуць пра Паўла Мойсіка аднакласнікі.

Паўлік спартсмен выдатны. Ужо чатыры разы абагнаў сваіх школьных канкурэнтаў у гонках на 1000 метраў. Чатыры разы заняў першае месца, раз толькі апынуўся на другім месцы. Таксама ў VI „а" вучыцца лаўрэат арфаграфічнага конкурсу па польскай мове ў Бельску-Падляшскім — Тамаш Лукашук. Як адзначыла Міраслава Маркевіч, Тамаш не дапускае арфаграфічных памылак і ў беларускай мове.

У VI „а" многа паклоннікаў беларускіх дэкламатарскіх конкурсаў. Гося Паўлючук, Марта Супранюк, Юліта Гайко, Наталля Альштынюк, Юліта Малеўская, Гося Базылюк, Гося Конюх, Юстына Шымчук і Пятрусь Евец удзельнічалі ў дэкламатарскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы „Роднае слова". Зараз таксама многія рыхтуюцца да гэтага конкурсу.

— У гэтым класе шмат цікавых і старанных вучняў. Вылучаюцца дзяўчаты, — кажа на развітанне Міраслава Маркевіч.

Настаўніца выкладае тут родную мову з чацвёртага класа. Мне таксама цікава было сустрэцца са сваімі вернымі чытачамі, моладдзю, якой хочацца гасцяваць на старонках „Зоркі". **Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*



*Тамаш Лукашук.*



*Павел Мойсік.*

# Сіла і кемлівасць

***(латвійская казка)***

Ішоў аднойчы па лесе селянін. Раптам насустрач яму — воўк. Убачыў селяніна і кажа:

— Ну, рыхтуйся да смерці: зараз я цябе з'ем!

— Што ж я табе зрабіў? — пытаецца селянін. — За што ты мяне загубіць хочаш?

— А ты быццам не ведаеш?

— Не, не ведаю. Зрабі ласку, скажы!

— Сёння раніцай ты не даў мне выспацца ў ядлоўцы. Мне да гэтага часу баліць галава ад гуку тваіх труб!

— Мілы мой, падумай, што ты кажаш! Якія там трубныя гукі? Бо я толькі высмаркаўся.

— Што б там ні было, усё роўна я цябе зараз з'ем.

— Ну, хто дужэйшы, за ім заўсёды праўда, — сказаў селянін. — Нічога з табой не зробіш: калі хочаш з'есці мяне — еш. Толькі дазволь мне спачатку памыцца ля ручая, а то я запыліўся і забрудзіўся.

— Ну, хай так будзе, ідзі да ручая, памыйся, — дазволіў воўк.

Сеў ён збоку і пачаў чакаць. А селянін пайшоў да ручая, нагнуўся, быццам і напраўду мыецца, а сам непрыкметна адламаў тоўстую рабінавую палку.

— Ці гатовы ты? — пытаецца воўк.

— Гатовы, — адказвае селянін.

Падышоў ён да ваўка, схапіў левай рукой яго за хвост, а правай узяўся лупцаваць кіем ды прымаўляць:

— У цябе сіла — у мяне розум! У цябе зубы — у мяне кемлівасць!

І так моцна аддубасіў ваўка,



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Люблю глядзець як дзеці растуць

**Інтэрв'ю з настаўніцай беларускай мовы ў ПШ у Чыжах Аннай ЛАЕЎСКАЙ.**

***— Скажыце, чаму Вы сталі настаўніцай беларускай мовы?***

— Я ўжо ў дзяцінстве марыла стаць настаўніцай. Гэтая прафесія мне заўсёды падабалася, а перад усім люблю дзяцей і працу з імі. І менавіта гэта пераканала мяне ў тым, што я павінна быць настаўніцай.

***— Ці не шкадуеце свайго выбару?***

— Я ніколі не шкадавала, што стала настаўніцай. Люблю вельмі дзяцей, люблю глядзець як яны растуць, развіваюцца. Мне вельмі прыемна, калі дзеці звяртаюцца да мяне са сваімі праблемамі, з просьбамі, а я магу ім дапамагчы. Вельмі люблю працу з дзецьмі.

***— Цяпер крыху аб Вашым прыватным жыцці. У колькі год Вы пайшлі замуж?***

— Замуж пайшла я ў 25 год, пасля заканчэння Варшаўскага універсітэта.

***— Чым займаецца Ваш муж?***

— Мой муж працуе на чыгунцы. Ён адпраўляе цягнікі, замыкае і адкрывае семафоры, калі едзе цягнік.

***— Колькі ў Вас дзяцей?***

— У мяне двое дзетак, абедзве дзяўчынкі: Юліта — 11 гадоў, вучыцца ў пятым класе, Эмілія — 7 гадоў, вучыцца ў першым класе.

***— Ці Вы ў хаце размаўляеце па-беларуску?***

— У хаце я размаўляю не чыстай літаратурнай мовай, а дыялектам, мае дзеці вучацца таксама беларускай літаратурнай мове.

***— Кім хочаце, каб былі Вашы дзеці?***

— Пакуль што, хачу каб мае дзеці вучыліся.

***— Дзе жывуць Вашы бацькі?***

— Мае бацькі жывуць у вёсцы Стары Корнін.

***— Часта Вы да іх ездзіце?***

— Вельмі часта наведваю сваіх бацькоў. Вельмі люблю пабываць у вёсцы. Праводжу там свае летнія канікулы.

***— Што Вы робіце ў вольны час?***

— У вольны час чытаю кнігі, рашаю крыжаванкі, аглядаю тэлебачанне і крыху дапамагаю сваім дзецям у навуцы.

***— Любіце хадзіць на танцы?***

— Хадзіць на танцы вельмі люблю і, калі ёсць нагода, разам з мужам ідзем патанцаваць.

***— Пачынаецца зіма — любіце Вы яе?***

— Люблю зіму, люблю калі падае снег, люблю таксама маразы, але невялікія.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыла Аліна Сіроцкая, VIII кл. ПШ у Чыжах**

# Сваё адцярпець трэба

Я вучаніца першага класа II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.

Хачу напісаць пра тое, як я пачынала навуку ў ліцэі, а дакладней — як здавала ўступны экзамен.

Напэўна многія мае сябры, якія вучацца ў восьмым класе задумоўваюцца ўжо цяпер, у якую школу пайсці ды ці лёгка стаць вучнем ліцэя. Хачу вам расказаць пра мае перажыванні, звязаныя з гэтым.

Штораз хутчэй падыходзіў дзень экзаменаў у сярэдніх школы. Я адчувала непакой. Перад сябрамі я не паказвала, што вельмі нервуюся, але ў сярэдзіне душа млела. Ногі я мела як з ваты. Калі мяне паклікалі на экзамен, я адчула, што ў маім горле пустыня. Калі глянуў на мяне настаўнік, я адразу пачырванела.

Са страхам чакала задач. Хацела ўцячы з залы і сама не ведаю, што мяне паўстрымала. Глянула на картку з заданнямі, а тут нічога не магу прачытаць. Якаясьці дзіўная заслона была ў мяне на вачах. Глянула я яшчэ раз і ўздыхнула з палёгкай. Усё ясна, усё ведаю! Я адчула вялікую радасць, каб не абставіны я гатова была спяваць і танцаваць ад тае вялікай радасці. Я ўжо ведала, як рашыць усе задачы.

Пачала хуценька пісаць. Усё пайшло добра. Я паспяхова здала экзамен. І так я стала ліцэісткай. Запытаеце „ці варта было?" Думаю, што так. Не такая цяжкая справа здаць экзамен, але сваё адцярпець трэба.

**Аня Панфілюк**



Мал. Монікі ЯКІМЮК, VIII кл. ПШ у Чыжах



*Школьнікі са Старога Ляўкова.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Польска-беларуская крыжаванка № 51

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▼ | Jad | Poła marynarki | Ryż | ▼ | Nauka / Mnich | ▼ | Kosowo / Mak / Lekarz | ▼ |
| | Spisek / Druk ▼ | ▶ ▼ | ▼ | | ▼ | | | |
| Drwal ▶ | | | | | | | | |
| Rysunek ▶ / Kęs | | | | | | | | 📖 |
| ▶ | | | Kawa ▶ / Gęba | | | | | 📖 |
| Koło ▶ | | | | | ▶ | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 47:** лозунг „Інтэрв'ю".

Узнагароды, **каляровыя алоўкі**, выйгралі: **Кася Ахім** са Старога Корніна, **Эмілія Нічыпарук** з Крыўца і **Наталля Кучынская** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

што ў таго на баках поўсці не засталося.

Ірваўся, ірваўся воўк, нарэшце рвануўся так, што хвост у яго адарваўся. Воўк уцёк, а хвост застаўся ў руках селяніна.

Паклаў ён хутка воўчы хвост у сваю торбу і пайшоў, пасмейваючыся, далей.

А воўк хутка ачухаўся і пачаў выць — склікаць іншых ваўкоў:

— Гэй, ваўкі, бяжыце хутчэй да мяне!

На яго выццё сабралася так багата ваўкоў, што і не палічыш.

Расказаў ім куртаты воўк, што з ім чалавек зрабіў.

Завылі ваўкі і кінуліся даганяць селяніна.

Пачуў селянін воўчае выццё і зразумеў, што ваўкі яго даганяюць.

Не доўга раздумваючы, залез ён на высокую сасну і сеў на тоўсты сук. Сядзіць, пазірае ўніз.

Падбеглі ваўкі, сталі вакол сасны, глядзяць на чалавека, ляскаюць зубамі. Стаяць і змаўляюцца:

— Трэба яго з дрэва сцягнуць!

— Трэба дык трэба, але як сцягнем?

Доўга думалі ваўкі, што рабіць. Нарэшце самы стары сказаў:

— Няхай адзін воўк стане пад сасною, яму на спіну стане другі, а на другога — трэці, на трэцяга — чацвёрты, на чацвёртага — пяты, — словам, колькі спатрэбіцца, каб дабрацца да сука, на якім чалавек сядзіць... Тут мы яго і сцягнем уніз!

Гэта вельмі спадабалася ваўкам, а асабліва куртатаму.

Ён зараз жа стаў пад сасной і загадаў іншым ваўкам лезці яму на спіну:

— Дастанем нягодніка і разарвём на кавалкі!

Вось ваўкі і палезлі адзін за адным — усё вышэй ды вышэй, усё вышэй ды вышэй...

Вось ужо ўскараскаўся і апошні воўк, наважыўся схапіць селяніна...

Бачыць селянін, што справы дрэнныя, ды не разгубіўся — выняў з торбы воўчы хвост, кінуў яго ўніз і крыкнуў:

— Гэй, куртаты! Вой твой хвост! Бяры яго! Можа, зноў сабе прыставіш!

Уцешыўся куртаты, кінуўся да свайго хваста. Тут усе ваўкі і пасыпаліся на зямлю, ледзь сабе шыяў не скруцілі! Завылі ад злосці і пабеглі даганяць куртатага: бо па яго віне ўсё гэта здарылася.

А селянін злез з сасны і шчасліва вярнуўся дахаты.



Талон „Зоркі" № 51
20.12.1998



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Юбілей „Чарамшыны”



28 лістапада г.г. у Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбыўся канцэрт „Чарамшыны”, які адзначыў 5-годдзе дзейнасці калектыву. Пра яго працу і будні слухачам расказала дырэктар ГОК Тамара Кердалевіч, а віншавальнае слова сказаў войт гміны Міхал Врублеўскі. На канцэрце прысутнічалі таксама пасол у Сейм Сяргей Плева і Ян Сычэўскі, сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч, прадстаўнікі ваяводскай, павятовай і мясцовай адміністрацыі ды запрошаныя на ўрачыстасць госці з Нямеччыны.

На працягу сваёй пяцігадовай дзейнасці „Чарамшына” заваявала сэрцы шырокага круга аматараў музыкі. Калектыў наведаў дзесяткі гарадоў у Польшчы, між іншым, Варшаву, Люблін, Радам, Гожуў-Велькапольскі, Тыкоцін, Легніцу, Сувалкі. У кожным з іх „Чарамшына” прапагандавала музыку і культуру Падляшша. На фолькавых фестывалях у Плоцку і Чэнстахове калектыў заваяваў II і III месцы. Апрача гэтага былі выступы ў тэлебачанні і падарожжы ў замежжа — Францыю, Галандыю і Нямеччыну. Калектыў выпусціў дзве касеты: „Чом ты нэ прыйшоў” і „Źródło”. Без „Чарамшыны” не абыходзілася ніводная падзея ў наваколлі Чаромхі — „Падляшская восень” і „Спасаўскія запусты” ў Бельску-Падляшскім, „Купалле” ў Нараўцы і Бандарах ды дабрачынныя канцэрты.

— Карыстаемся кожнай нагодай ды кожным запрашэннем, — кажа мастацкі кіраўнік „Чарамшыны” Барбара Кузуб. — Мы спяваем, а нашы спонсары часам прыкінуць нейкі грош у дапамогу. Не атаясамліваемся аднак з канкрэтным спонсарам. Мы падтрымліваем традыцыю песні Падляшша, славім родны кут, Чаромху, ад якой і назва гурту.

Юбілейны канцэрт „Чарамшыны” цягнуўся тры гадзіны. Была песня і для Яцка Кураня, які з’яўляецца карэспандэнцыйным членам калектыву, але хвароба не дазволіла яму даехаць на юбілей. Шмат цёплых слоў у адрас калектыву выказалі Сяргей Плева і Ян Сычэўскі, быў зачытаны віншавальны ліст ад генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалая Крэчкі, былі віншаванні ад самадзейнікаў з Волькі-Тэрахоўскай і Чаромхі-вёскі ды віншаванні ад членаў варшаўскага калектыву „Вэрховына”.

— З „Чарамшынай” я пазнаёміўся у 1997 годзе ў Тыкоціне, — сказаў Карстэн Гастман з Гановера, госць „Чарамшыны”. — З таго часу я стаў гарачым прыхільнікам музыкі гэтага калектыву.

— Вы трэці раз у Чаромсе. Што вам тут падабаецца?

— Цудоўны вясковы краявід, які сугучны музыцы „Чарамшыны”. У мяне тут самыя лепшыя ўражанні. Хацелася б, каб сустрэч такіх было больш, бо яны спрыяюць лепшаму знаёмству і прыбліжаюць маладых людзей да жыцця ў з’яднанай Еўропе...

**Уладзімір Сідарук**

# Кніжка — як вінтоўка

Гмінная публічная бібліятэка ў Орлі з 1996 г. змяшчаецца ў сутарэнні будынка Падставовай школы і суседнічае са школьнай бібліятэкай. І хаця ў ёй кнігам прасторна, аднак летам там вельмі холадна, а зімою таксама не скажаш, што цёпла.

Бібліятэкаркай працуе тут Гражына Насковіч, якая апякуецца кнігазборам з 10 782 кніжак. У 1995 г. па загадзе зверху былі знішчаны творы Маркса і Энгельса ды прапагандысцкія выданні ПАРП, аднак працы Леніна засталіся. На паліцах арлянскай бібліятэкі стаяць 331 беларуская і 492 рускія кніжкі. Сярод беларускіх выданняў увагу прыцягваюць зборнік „Храм і верш”, „Доўгая сьмерць Крынак” Сакрата Яновіча і „Паратунак” Міколы Гайдука з дарчым надпісам аўтара.

Сёлета бібліятэка купіла 57 кніг на польскай мове і падпісваецца на два выданні: „Poradnik Bibliotekarza” і „Świat Wiedzy”. Паслугамі бібліятэкі карыстаецца 214 чытачоў, у тым ліку 123 дзяцей. Самай пажылой чытачкай з’яўляецца пенсіянерка, былая работніца культуры Вера Валкавыцкая з Орлі, якая ахвотна чытае пра агароднiцтва, кветкаводства, лекавыя зёлкі, а таксама цікавіцца паэзіяй, у тым ліку і на беларускай мове.

— У мяне няма многа часу на чытанне, — прызнаецца спадарыня Вера, — але кнігамі я вельмі цікаўлюся і часта наведваю бібліятэку. Для мяне кніга таксама неабходная як салдату вінтоўка. Не расстаюся з кнігамі, чытаю ў вольныя хвіліны. Калі трапіцца мне штосьці цікавае, магу абудзіцца а другой ночы і тады чытаю да раніцы.



*Вера Валкавыцкая (злева) і бібліятэкарка Гражына Насковіч.*

Гмінную бібліятэку на працягу дзесяці месяцаў гэтага года наведала 1389 асоб, якія пазычылі 4393 кніжкі. На жаль, летась беларускімі кнігамі зацікавілася толькі адна асоба, у 1996 г. — ніхто, а ў 1995 г. — дзевяць чалавек. У 1995 г. рускія кніжкі пазычала 16 чалавек.

Кніжкі на беларускай і рускай мовах знаходзяцца ў асобным памяшканні. На горнай паліцы ляжаць непрыдатныя падручнікі па беларускай мове, яшчэ не распакаваныя. Асобныя экземпляры падручнікаў, што стаяць па паліцы, таксама не гарталіся чытачамі. Чаму так дзеецца?

Кнігазбор школьнай бібліятэкі таксама налічвае звыш 10 000 тамоў, у тым ліку 800 беларускіх. Моладзь не любіць чытаць кніжак на беларускай і зусім не чытае на рускай мовах. Гэтымі кніжкамі карыстаюцца студэнты і настаўнікі. Бібліятэкаркай у школе працуе Валянціна Вітошка, настаўніца з Орлі. Апрача кніжак бібліятэка збірае відэакасеты (мае іх 43 штукі).

Школьнай бібліятэкай карыстаецца 206 чалавек, у тым ліку 169 вучняў. Астатнія — гэта вучні сярэдніх школ, студэнты, настаўнікі і школьныя работнікі. Школьная чытальня багатая часопісамі. Тут можна пачытаць таксама „Ніву” і „Часопіс”.

— Вучні часта заходзяць у бібліятэку, — расказвае Валянціна Вітошка, — ахвотна карыстаюцца чытальняй. Дзеці пазычаюць кніжкі, чытаюць перыядычныя выданні, рыхтуюць урокі. Самымі выдатнымі чытачамі з’яўляюцца вучні малодшых класаў: Юстына Ходак, Юстына Ярымовіч і Віялета Жужаль з I класа, Наталля Міранчук і Эдыта Русіновіч з II класа ды Ангеліка Гонта і Анэта Шыманюк з III класа. Вучні старэйшых класаў аддаюць перавагу маладзёжным кніжкам. Кожны дзень бібліятэку наведваюць больш за 20 асоб.

Абедзве бібліятэкі ў новым школьным будынку вылучаюцца парадкам і чысцінёй ды мілай атмасферай, якую ствараюць бібліятэкаркі. Многа кніжак маюць празрыстыя фольгавыя абложкі. Валянціна Вітошка, дзякуючы сваім мастацкім здольнасцям, выканала каляровыя насценгазеты. Нічога тады дзіўнага, што ўтульны інтэр’ер і кніжкі прыцягваюць многіх вучняў і дарослых.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Вёска

Над Вёскай, над маладым лесам павіслі пярыстыя хмары колеру дзінатуры. Сонца кідала прамень у фіялетавую гушчу, гняўлівае і бездапаможнае, што хіліцца ўжо на захад, валілася за гарызонт трапяткім цяжкім колам. Зубасты лес клаў свой цень на палову Вёскі. Ногі Дзямяна трывалі нерухома ў пяску, стынучым і ўбіраючым сырасць, заглыбляліся ў прахалодны цень, і морак ішоў да Дзямянавых старых касцей, скрадаўся да сэрца, якое адчуваў у нутры моцна: вось таххае, прытамляецца, потым зрываецца зноў, як разбуджаная птушка на досвітку. Ногі хацелі ісці ў той фіялет, тую чырвань, рваліся ўперад, але Дзямянавы плечы хіліліся да штыкецін старога плота, абымшэлых, аблітых ружовасцю і цёплым золатам.

Вёска маўчала. Гэтая Вёска маўчала. Не рыпаў асвер-жораў, не бразгатала вядро на калаўроце. Маўчалі людзі і сабакі, не было іх. Не іржаў ніводзін конь, хоць бронзавы цень Лысага, здаецца, перабег, як памяць, за агародамі. Нёсся з таго боку пах гурэчнікy і кропу, задушаных у абдымках лебяды, драсёну, асоту і крапівы.

Засакатала курка Рудка, дастойна высунулася з лапухоў — рада з яечка. А другая, надзьмута-пухкая, дастойная, квохкаючы, памалу вывела з-пад куста парэчкі сваіх байстручкоў, крадком выседжаных, уцалеых, дагледжаных. Пакуль лета, курка Чапурка мае іх чым карміць, хоць гаспадыні ўжо няма. Не ведае квактуха, што яе дзеткі ў юнацтве зложаць свае галоўкі, ледзь аскубаныя, недаваранья-недапечаныя. Яна — маці, ёй добра, яна бароніць і корміць, і што ёй Вёска, што ёй іншы свет... Яшчэ не адзічэла, дасца падысці Жорку з сінім носам. Ён быццам накрышыць ёй хлеба, вытрасаючы нейкую патраху з кішэні навідавоку: „ціпціп-ціп, цю-цю-цю”. Чапурка кінецца бегма на пачастунак, а за ёю ейныя падпеўнікі ўжо, падкурачкі; колькі з кожнага з іх будзе закускі — што з галубка... Жорку ўжо смяюцца вочы! Дзямяну што тая курка і яе вывадак — і так заўтра едзе ў Дом. Да Жоркі сёння прыйдзе, пачастуецца курацінкай, выбярэ маладое мяска, на старыя зубы...

З суседняй вёскі чутно яшчэ жывое.

**Міра Лукша**

# Як працуе радны

У Арлянскай гміне, якой улады не спяшаліся паведамляць грамадству аб сваёй працы, урэшце з’явілася магчымасць атрымаць аператыўную інфармацыю аб працы самаўрада. Такую магчымасць дае свайму электарату радны Міхал Мінцэвіч, за якога на выбарах прагаласавала ажно 247 выбаршчыкаў (каб стаць радным хапіла набраць 50 галасоў). Ён таксама, як адзіны з ліку 52 кандыдатаў, пайшоў на выбары са сваёй праграмай. У яе заканчэнні заявіў ён наступнае: „Стаўшы радным, не буду цярпець балагачы, хітрунства і хамства з боку ўлад!”

Пасля выбараў улада ў гміне не памянялася, таму ёсць з кім і з чым радналу Мінцэвічу змагацца. Спярша стаў ён запрашаць грамадзян на пасяджэнні Рады гміны — на першую сесію прыйшло пяць чалавек, а на другую — каля трыццаці, што моцна збянтэжыла войта і яговых прыхільнікаў. Пачаў ён таксама выдаваць за свой кошт аднадзёнку „З-за лавы раднага”. Газета выбаршчыкам спадабалася. Радны апрача інфармацыі заахвочвае грамадзян Орлі тэлефанічна кантактавацца з ім у найбольш істотных справах, ставіць яму пытанні, патрабаваць высвятлення справы і адказу. Аказалася, што аб тым, што дзеецца ў гміне цікавяцца не толькі жыхары Орлі, але і аддаленых вёсак, да якіх газета-аднадзёнка таксама даходзіць. Цікавых тэм для лакальнага выдання многа і таму радны Міхал Мінцэвіч вырашыў выдаваць мясцовую газету „Арлянскія весці”.

**(лч)**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Журобічы — забыты санктуарый



*Царква ў Журобічах.*

Царква ў Журобічах, цяпер філіял прыхода ў Жэрчычах, існавала ўжо ў XVI стагоддзі. Сведчыць аб гэтым скарга духоўнага ад 1644 года. З пісьмовай крыніцы даведваемся, што ў 1662 г. заснавальніцай царквы была Галена Палубінская, княгіня маскоўская, якая перадала царкве 2 валокі грунту.

У журобіцкай царкве знаходзіцца здаўна шанаваная копія іконы Рудненскай Божай Маці. Арыгінал згаданай іконы знаходзіўся ў мястэчку Рудня — 68 км ад Смаленска (між Смаленскам і Віцебскам). Цудоўнае з'яўленне іконы адбылося ў 1678 г. і тады была пабудавана першая царква, у якой была памешчана ікона. На іконе Прасвятая Багародзіца прадстаўлена ў паўфігуру з Ісусам на левай руцэ; правай указвае на Яго. Гасподзь Ісус правай рукой указвае на Божую Маці. На Іх галовах — кароны. Сама ікона нагадвае ікону Смаленскай Божай Маці тыпу *Адзігітрыя*, якой распаўсюджаных звыш трыццаці копій карыстаюцца вялікай пашанай у вернікаў. „У гэтай іконе спачывае мая ласка і моц", — так паводле традыцыі сказала Багародзіца, калі евангеліст Лука закончыў пісанне Яе першай іконы.

Хто ахвяраваў копію іконы Рудненскай Божай Маці для царквы ў Журобічах, цяжка ўстанавіць. Невядомай таксама застаецца дата далучэння гэтай царквы да уніяцтва. „Генеральны візіт" журобіцкай Міхайлаўскай царквы ад 1726 г. паведамляе: „Deisusu carskich Drzwi Nie masz. Drzwi starey cerkwi Na Chór zawleczone. Ieszcze się znajduje obrazów wielkich sześć, a moskiewskich cztery". Не пералічвалася ікона Божай Маці, толькі „paciorków szklanych sznurków osiem", відаць, ахвяраваных вернікамі. Мабыць, тадышні візітатар спецыяльна абышоў маўчаннем ікону БМ, бо напісана яна была ў візантыйскім стылі і павялічыла б толькі колькасць „маскоўскіх" абразоў.

Наступны візіт ад 1757 г. пералічвае „Jezusa na wielkim ołtarzu nad którym obraz Świętego Michała przystojnie akomodowany na tymże ołtarzu obraz Nayświętszej Panny Spornieyszy iak łokeć na płótnie malowany na którym pianki morskiej paciorek sznurek ieden y firanka puł jedwabna różowa". Згаданая ікона — праўдападобна наша ікона Рудненскай Божай Маці. Чарговы візіт ад 1789 г. пералічвае шанаваную цудадзейную ікону БМ. Візітатар запісаў у адным сказе: „Jeden matki Nayświętszej ut Fertur łaskami słynący-mi" і не пералічваў ахвяраванняў.

Царква ў Журобічах, паводле друкаваных крыніц, знаходзілася на поўдзень ад вёскі. Збудавана яна была ў 1809 г. і на цяперашняе месца была перанесена ў 1845 г. З расказаў жыхароў Журобіч, запісаных у „Гродненскім календары" ў 1892 г. вынікае, што падчас пажару вёскі згарэла царква. Вернікі былі пераканаНы, што згарэла таксама ікона. Вялікая была радасць, калі цудоўную ікону знайшлі на камені ў іншым месцы. Вернікі былі ўпэўнены, што ікона ў цудоўны спосаб была перанесена, каб паказаць месца пад адбудову царквы.

У згаданым календары адзначаецца, што ікона была напісана на палатне памерамі 1 аршын вышыні і 3/4 аршына шырыні. На ёй былі выяўлены Божая Маці з Дзіцяткам, якое трымае евангелле; у Марыі і Ісуса каранаваныя галовы. Твар Божай Маці „сухощавый, продолговатый, смуглый, выражение лица серьёзное и как бы строгое, преобладеющая краска — тёмная". На гары іконы размяшчаецца надпіс на царкоўнаславянскай мове, які ў перакладзе на беларускую гучыць наступным чынам: „Слова ўцеляснілася", а ў нізе „калі людзі вядуць сябе нягодна, тады заступніцтва Марыі даражэйшае за золата, жалезнае сэрца вяртае к Богу". Асаблівa ікона шанавалася ў дзень Багародзіцы, аднак у 1882 г. дзень 12 кастрычніка быў устаноўлены як свята Рудненскай Божай Маці.

Журобіцкую царкву наведвала многа паломнікаў, якія прасілі Багародзіцу Ейнага заступніцтва і дапамогі, атрымоўваючы духовую і цялесную падтрымку. Журобічы ў канцы XIX і на пачатку XX стагоддзя належалі прыходу ў Дзядковічах. Пасля І сусветнай вайны абслугоўваліся яны суседнімі прыходамі. Пасля ІІ сусветнай вайны ў выніку „эвакуацыі" і тэрору „падполля" жыхары Журобіч і навакольных вёсак былі вымушаны выехаць у БССР. Іх дамы і гаспадаркі займалі рэпатрыянты або падвяргаліся разбурэнню. У гэты складаны час Журобічы належалі прыходу ў Жэрчычах і паводле „Кліравай ведамасці" ад 1946 г. з Жэрчыцкага прыхода выехала больш за 900 чалавек. Нягледзячы на змяншэнне ліку жыхароў вёсак, філіяльная царква ў Жэрчычах знаходзіцца ў добрым стане, задбаная. Міграцыя людзей з вёсак у гарады працягваецца і асабліва моцна заўважаецца яна ў канфесійна змешаных асяродзях. Гэта адмоўна паўплывала на культ іконы Рудненскай Божай Маці. Свята арханёла Міхала, заступніка царквы, адзначаецца вельмі ўрачыста. Ікона БМ у ківоце застаецца на тым самым месцы, як яе папярэдніца. Можна спадзявацца, што Божая Маці і ў будучым будзе расцягваць апеку над улюбёнымі сваімі месцамі.

**(агс)**

<u>Нататкі з Каталоніі</u>

# Сваё ёсць сваё

Калі б каталонцу сказаць, што ён — іспанец, той мог бы страшэнна абурыцца. Абразіўся б, хаця Каталонія ляжыць у паўднёва-ўсходняй частцы Іспаніі і з'яўляецца часткай гэтай краіны. Бо Каталонія (у яго ўяўленні і наогул) гэта нешта асаблівае.

Пры ўездзе ў Каталонію кідаюцца ў вочы надпісы на дзвюх мовах; на аўтастрадзе чытаем: „Salida" („выйсце" па-іспанску), а ніжэй: „Sortido" (тое ж самае па-каталонску). І так усюды. На крамах найчасцей там толькі каталонскія шыльды. Ангельшчыны амаль нідзе не відаць, мо толькі на банках і падобных установах, дзе яна неабходная, каб абслужыць замежных гасцей. Увага: Іспанія з'яўляецца і членам НАТО, і членам Еўрапейскага Саюза. Галоўным горадам Каталоніі з'яўляецца Барселона, горад, які адвечна супернічаў з Мадрыдам. Каталонцы гавораць: „Каталю-у-нія", „Барселю-у-на"...



*Каталонская вёска з акна аўтобуса.*

Каталонія гэта край Іспаніі з найбольш развітай прамысловасцю (побач з краем баскаў). Ужо ў сярэднявеччы каталонцы прысвячалі найбольшую ўвагу развіццю гандлю, а Барселона па сваім палажэнні была натуральнай брамай гандлёвай экспансіі на Міжземнае мора. Гэта спрыяла далейшаму ўзбагачэнню гэтага краю.

Сёння аўтаномная правінцыя Каталонія дае Іспаніі адну чвэрць даходаў з прамысловасці і імпарту, ды адну пятую даходаў з экспарту. Толькі фабрыка „Seat" у Барселоне дае больш палоўы прадукцыі легкавых аўтамабіляў у Іспаніі.

Можа якраз гэтыя прычыны дазваляюць каталонцам, як кажуць, насіцца высока. У кожным выпадку, разам з развіццём індустрыі ўзрасталі імкненні да самастойнасці.

Каталонія аказала найбольшае супраціўленне генералу Франка. Ён сурова пакараў яе за гэта. Адабраў ужо здабытую раней аўтаномію, забараніў ужываць у публічным жыцці каталонскую мову. Нельга было выдаваць ні каталонскія кніжкі, ні газеты.

За тое, што ў час грамадзянскай вайны ў Іспаніі каталонскі народ быў на чале антыфранкаўскіх выступленняў, што менавіта ў Барселоне ўзніклі рабочыя камісіі і палітычны рух інтэлектуалаў і студэнтаў, генерал Франка, калі перамог, загадаў знесці дашчэнту ўсе нацыянальныя традыцыі. Паўсюдна запанавала тут іспанская мова. Не толькі за тое, што хтосьці карыстаўся каталонскай мовай у афіцыйных справах, але калі б нават гаварыў са знаёмым на вуліцы па-каталонску, — пагражала няўхільнае турэмнае зняволенне.

Ужо ў шасцідзесятыя гады, у выніку змаганняў каталонцаў, наступілі там пэўныя змены. Без абмежавання каталонская мова вярнулася ў касцёлы, а ў школы — на неабавязковыя заняткі.

Адраджэнне ішло павольі. Каталонская мова стала мовай афіцыйнай побач з іспанскай, называнай тут кастыльскай мовай. У апошні час каталонская мова выпіхае іспанскую са школ. Некалькі гадоў таму ў Каталоніі адбылася рэформа асветы, у выніку якой у публічных школах прадметы выкладаюцца на каталонскай мове. Каталонская стала ў школе першай, а іспанскую мову дзеці вывучаюць, як кожную замежную мову. Ва універсітэтах таксама ўсё выкладаецца па-каталонску.

Праўда, некаторыя (з тых, што прыехалі сюды з іншых правінцый) наракаюць, што іх тут дыскрымінуюць. Ну, і што? Наракаюць, але ж вучацца.

Будучы ў Каталоніі, я думала пра Беларусь. Чаму беларусы так не змагаюцца за сваю мову? Старалася тлумачыць гэта па-рознаму. Маўляў, беларусы ж практычна ніколі не былі самастойнай дзяржавай, а каталонцы на працягу нейкага часу сваю дзяржаўнасць мелі. А мо гэта проста не той тэмперамент?! Беларусы — больш з поўначы, спакойныя, флегматычны тэмперамент. Каталонцы — з поўдня, гарачыя, жывы тэмперамент.

Беларусам — добра, як ёсць, а каталонцы бунтуюцца дзеля пацвярджэння сваёй тоеснасці. Беларусам гаварыць лёгка і па-беларуску, і па-руску, — і таму яны гавораць... па-руску. Каталонцам лёгка гаворыцца і па-каталонску, і па-іспанску, — і таму яны гавораць па-каталонску.

А што мовы ведаюць, няма сумнення. У крамах, пачуўшы польскую мову нашых турыстаў, умомант адказвалі ім на чыстай рускай мове. Але сваё ёсць сваё.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*

P.S. Яшчэ цікавінка для беларусаў, якую варта запамятаць дзеля прафілактыкі. У XIV стагоддзі ўладар Каталоніі Жам І падзяліў свой край паміж двума сынамі. Доўга таргаваліся браты, сварыліся і біліся між сабою. Кожнаму здавалася, што бацька яго пакрыўдзіў і даў меншую частку.

Урэшце адзін з братоў звярнуўся да як заўсёды добразычлівых суседзяў (а былі гэта французы), каб дапамаглі яму біць брата. А як жа, суседзі дапамаглі! У выніку гэтага сёння частка Каталоніі таго даверлівага брата знаходзіцца ў Францыі, а пры ўездзе на гэту тэрыторыю стаіць велічны помнік... дружбы.

**А. Ч.**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Сустрэчы з Тарашкевічавай жонкай



Толькі з віленскай „Руні" (н-р 13, 1998 г.) прыйшлося мне даведацца пра смерць Веры Андрэеўны Ніжанкоўскай. З гэтай цудоўнай жанчынай пазнаёмілася я ўвосень 1989 г. Пачынала я збіраць матэрыялы да сваёй доктарскай дысертацыі. У Мінску тады я яшчэ мала каго ведала, а пабыўкі ў бібліятэках („Ленінцы" ці „Акадэмічнай") знаёмілі мяне з сістэмай іх існавання ў савецкіх умовах. У той час апірышчам для мяне былі прафесар Педагагічнага Інстытута Анна Валашэнка і яе сям'я. Дапамагалі мне як маглі: і кватэрай, і харчаваннем, і доступам у бібліятэкі, не згадваючы ўжо пра запрашэнні, якія ў той час былі неабходныя, каб уехаць у БССР. Словам, пагаджаліся на ўсе мае фанабэрыі. Адной з іх была патрэба з'ездзіць у Радашковічы, каб пабачыць ці жыве першая жонка Браніслава Тарашкевіча. На маю прапанову Юрка, сын пані Анны, зрэагаваў, быццам бы мелі мы здзейсніць падарожжа ў часе — вярнуцца ў гісторыю. „Ці гэта магчыма, што яна яшчэ жыве?" — з недаверам вёз нас усіх Юрка ў Радашковічы, на вуліцу Браніслава Тарашкевіча 14. Было даждлівае надвор'е, у агародзе краталася старэнькая жанчына, перакопваючы зямлю. Аказалася, што гэта менавіта яна — Вера Андрэеўна Ніжанкоўская. Пазнаёміўшыся і дамовіўшыся на сустрэчу, мы паехалі далей, каб не мяшаць бабулі ў працы. Па дарозе Юрка сказаў: „Паглядзі, ты жывеш у Польшчы і ведаеш, што жыве Тарашкевічава жонка, а мы тут — і нічога не ведаем! Адкуль ты ведаеш?" Прыйшлося мне гэтае пытанне чуць не раз, калі збіралася ехаць да Веры Андрэеўны ў Радашковічы. Адказ заўсёды быў аднолькавы: праз знаёмства з Аляксандрай Бергман, якая напісала кнігу пра Браніслава Тарашкевіча. Таму мае паездкі ў Беларусь у 90-х гадах часта звязаны былі з візітамі ў спадарыні Веры Андрэеўны. Сустрэчы былі сапраўднай асалодай пасля бюракратычных умоваў карыстання бібліятэкамі і архівамі.

Нягледзячы на звышдзевяностагадовы ўзрост Веры Андрэеўны адчувалася атмасферу прабывання з інтэлігентнай, жыццярадаснай жанчынай са светлай памяццю гісторыі, якая абыходзілася з ёй абыякава, быццам на злосць за тое, што некалі выйшла замуж за Тараса — як Вера Андрэеўна называла Браніслава Тарашкевіча. І дажываць ёй прыйшлося не ў сваім „панскім" доме, а ў сціплай хатцы, якая калісь была варыўняй. Адзінае, чаго прыжыццёва дачакала — гэта вуліцы імя свайго мужа і мемуарнай дошкі на „панскім" доме пра жыццё і дзейнасць у ім у 1923-1931 гадах вядомага вучонага і палітычнага дзеяча Браніслава Адамавіча Тарашкевіча. Марыла пра музей у сваёй роднай хаце. Пасля 1990 г. здавалася, што ўсё на добрай дарозе. Планаваўся рамонт і вяртанне ранейшага выгляду дома. Вера Андрэеўна падабрала здымкі даваеннага дома, разрысавала планіроўку ўсярэдзіне. Пасля вайны дом забралі пад бальніцу і ніхто не зважаў, што гэта прыватная маёмасць. Калі ў Радашковічах пабудавалі новы шпіталь, у доме Веры Андрэеўны пасялілі перасяленцаў з чарнобыльскай зоны, а ў другой палавіне — адвакатку, якая завяла гадоўлю індыкоў і трусоў. А Вера Андрэеўна надалей жыла ў малой хатцы, без ніякіх выгадаў. Стварэнню Музея прыхільны быў мясцовы савет. Але надышоў 1994 год. Мясцовыя ўлады неяк прыцiхлі пад уплывам новага прэзідэнта. Сама Вера Андрэеўна перастала верыць у прыжыццёвае здзяйсненне адраджэнскай мары. Пасля яе смерці, аж ціснецца на вусны пытанне: няўжо ўсё травою зарасце? Хто будзе мець столькі адвагі і цярплівасці, каб адстойваць вяртанне гістарычнай каштоўнасці гэтаму месцу ў Радашковічах? Здаецца, адзіная надзея ў дачцэ Веры Андрэеўны Ніжанкоўскай — Іры, якая пераехала з Мінска, каб даглядзець сваю маму да смерці.

Сёння, калі ўспамінаю сустрэчы з Верай Андрэеўнай, перад маімі вачыма стаіць вобраз радаснай прыгожай жанчыны, якая жыла ўспамінамі пра блізкіх і заўсёды пытала: „Што яшчэ хочаце ведаць?" А пра гісторыю Вера Андрэеўна апавядала займальна, быццам усё тое адбывалася ўчора, а не ў даўні, нават дарэвалюцыйны час. Дзякуючы яе ўспамінам я даведалася пра тое, што ў касцеле ў Радашковічах хрысцілі Янку Купалу, пра дзейнасць яе дзядзькі Аляксандра Уласава, які меў маёнтак у Мігаўцы, пра яе бацьку Андрэя Сніткy, аўтара „Гісторыі Слуцкага Княства", які стварыў у Мінску Царкоўнаархеалагічны музей (зараз Дом мастацтваў), пра яе брата — пражскага студэнта, сакольскага дзеяча, які памёр у Празе ў 1969 г. Найбольш успамінаў пра Тараса — здымкі, яго лісты і яго постаць, відаць, былі самымі дарагімі для Веры Андрэеўны. Шмат скарысталa з гэтага хатняга архіва Аляксандра Бергман пішучы „Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu". 1933 год, калі Браніслаў Тарашкевіч у рамках абмену палітычнымі вязнямі выязджаў у Савецкі Саюз, для Веры Андрэеўны абазначаў развітанне з Тарасам назаўсёды. У Нягарэлае паехала на развітанне з Славікам — іх сынам. Тады не думала, што гэта іх апошняе спатканне. Думала, што пазней паедзе за ім, але ў Радашковічах была маці, свая хата, а і весткі, якія ў памежныя Радашковічы прыходзілі з таго боку мяжы не давалі шмат надзеі. Тарас прысылаў лісты і кніжкі Славіку. Але разлука адмяніла жыццё Тараса і Веры — ён у Маскве ажаніўся, а Вера ў Радашковічах выйшла замуж за прысланага са Шлёнска польскага настаўніка Ніжанкоўскага.

Яркім успамінам з дзяцінства Веры Андрэеўны была пастаноўка „Паўлінкі" ў Радашковічах у 1913 годзе. Прыехаў сам Купала. Зрабілі здымак. На ім Вера Андрэеўна з „Нашай Нівай" у руках.

Асабліва прыгожа было ў Веры Андрэеўны летам. Вакол дома — кветкі розных колераў і відаў. Асабліва прыгожыя рознакаляровыя гладыёлусы (шпажнікі). Прыемна было сядзець у кветным агародзе, слухаць успамінаў Веры Андрэеўны і захапляцца кветкамі і цудоўнай памяццю. Здаецца, ва ўсім мястэчку не было такога прыгожага агарода. Вера Андрэеўна любіла кветкі, сама іх садзіла і даглядала. Успаміналa, як аднойчы зайшоў да яе малады мужчына і прынёс жменю грошай. Вера Андрэеўна была здзіўлена, за што. Тады даведалася, што гэта за кветкі, якія маладзён калісьці ўкраў у яе агародзе.

Калі я наведвала Веру Андрэеўну, у мяне заўсёды складалася ўражанне, што жыла яна сваім гаротным жыццём, мела сяброў вучоных, краязнаўцаў, якія карысталіся яе ведамі, архівамі, вопытам, але, здаецца, гэты чалавек — гісторыя, сведка амаль усяго XX стагоддзя, так і не прызнавалася мясцовым грамадствам. Жыла сабе ціха, бо і навошта каму былі патрэбны веды пра Радашковіцкую беларускую гімназію ці беларускіх нацыянальных дзеячаў, калі паўсюдна гадаваліся „савецкія людзі", якім гісторыя сваёй краіны ці мястэчка „ни к чему не нужна".

Калі 2 лютага 1992 года выбралася я ў Радашковічы разам з Сяржуком Вітушкам, аказалася, што да спадарыні Веры прыедуць госці з пасольства Польшчы: пасол Альжбета Смулкова з мужам і Марэк Зюлкоўскі. Нагода была не абы-якая: 20 студзеня мінула 100 гадоў як нарадзіўся Браніслаў Тарашкевіч. Нікому, дарэчы, іншаму не прыйшло ў галаву, каб з такой нагоды наведаць паплечніцу Браніслава Тарашкевіча — не кажу тут толькі пра ўзровень улады. Прафесар А. Смулкова прывезла ў падарку Тарашкевічаў пераклад „Пана Тадэуша" на беларускую мову. Колькі нечаканай радасці прынёс Веры Андрэеўне гэты візіт, маглі мы пераканацца на сваe вочы, прыбіраючы ейную хатку перад і пасля візіту. „Пабачце, — казала, — яшчэ і пра мяне нехта памятае з нагоды Тараса. І яшчэ не абы-хто — а пані амбасадар!" Але, здаецца, было гэта і адзінае прызнанне Веры Андрэеўны „з нагоды Тараса", бо апрача некалькіх артыкулаў у прэсе нічога канкрэтнага ўлады не зрабілі, каб у Радашковічах адкрыць Музей ці паставіць помнік, прысвечаны Тарашкевічу, не гаворачы ўжо пра нейкую дапамогу яго жонцы.

А была Вера Андрэеўна крыніцай ведаў пра беларускую гісторыю XX стагоддзя да смерці, хаця ўжо пад канец жыцця не хадзіла і страціла зрок. А памяць, захаваная да апошняга дня, так і не выкарысталася паўсюдна, а выключна гісторыкамі і да таго фанатамі.

У мяне захоўваецца карэспандэнцыя з Верай Андрэеўнай. Апошнія лісты пісала ўжо яе дачка Іра: 16.12.1997 г. „У нас бяда — мама ў жніўні зламала шыйку бядра. Ляжыць у хаце". 8.04.1998 г. „Мама ляжыць ужо дзевяты месяц. Адзінае, што я цяпер яе магу пасадзіць. Я ўвесь час дома".

Хацелася яшчэ пабачыцца з Верай Андрэеўнай Ніжанкоўскай. Аднак — вядома — Радашковічы ніяк не па дарозе, нават калі ты ў Беларусі, трэба спецыяльна туды дабірацца. Жыццё Веры Андрэеўны абарвалася 6 мая г.г. на 98 годзе жыцця. Разам з успамінамі пра сустрэчы з гэтай цудоўнай жанчынай назаўсёды астануцца ўспаміны пра яе сям'ю: Тараса, Славіка, бацьку, Здзіславу Сасніцкую, Мар'ю Нагенць з Ольштына, Алімпію Свяневіч і шматлікіх беларусаў з міжваеннага перыяду.

**Лена Глагоўская**

# Падтрымка этнічным культурам

Нядаўна ў нашу рэдакцыю трапілі два першыя нумары бюлетэня „zaKORZENIEnie", які з сёлетняй вясны выдаецца Таварыствам падтрымкі этнічных культур. Выдаўцы, якія ставяць сабе за мэту абарону свабоды і этнічнай разнароднасці, заклікаюць да супрацоўніцтва асобы, якія цікавяцца этнічнымі культурамі і аховай правоў меншасцей, а таксама арганізацыі этнічных меншасцей і таварыствы дружбы з іншымі народамі (асабліва невялікімі) ды аматараў фольк-музыкі. „Гэты заклік, — пішуць выдаўцы, — накіроўваем не толькі да агульнавядомых альтэрнатыўных, вызваленчых і левых асяродзяў, якія традыцыйна станоўча адносяцца да правоў меншасцей, а таксама да прыхільнікаў правых груповак, якія павінны сабе ўсведамляць той факт, што ў Еўрапейскім Саюзе палякі таксама стануць этнічнай меншасцю". У абодвух нумарах друкуецца этнаплюралістычны маніфест „Тоеснасць", у якім можна прачытаць, „што неабмежаваная свабода змены тоеснасці ўводзіць хаос у жыццё групы, паслабляе яе кампактнасць і аблягчае асіміляцыю малых груп вялікімі". Далей аўтары маніфеста пішуць, што „культуры могуць узнікаць на розных фундаментах, але найбольш распаўсюджанай формай калектыўнай тоеснасці з'яўляецца тоеснасць этнічная (нацыянальная, племянная, рэгіянальная). Абараняючы яе, абараняем аднолькава як багацце і разнароднасць навакольнага свету, так і рэальную свабоду групы (якая не можа быць свабодная, калі не ўсведамляе сваю адрозненасць). Паводле аўтараў маніфесту, „для чалавека, які не ведае сваіх каранёў, усе культуры з'яўляюцца аднолькава чужымі і абыякавымі" і тады нельга гаварыць аб талерантнасці, а толькі аб адсутнасці ўласнай тоеснасці.

У першым нумары бюлетэня Рэмігіюш Акраска ў артыкуле „Найменшая меншасць" піша пра германскіх жыхароў Вілямовіц, невялікага мястэчка паміж Асвенцімам і Бельска-Бялай, якія карыстаюцца гаворкай падобнай на фламандскія дыялекты. У гэтым жа нумары даецца інфармацыя пра Польска-ірландскае таварыства і артыкул пра басконскі музычны калектыў „Картатэ". А ў другім нумары згаданага бюлетэня, апрача артыкула пра лэмкаў і жыхароў Усходняга Тымора, можна прачытаць пра дзейнасць Таварыства „Памост" і выставу беларускага нелегальнага друку ў Лодзі ў 1990 г. ды навуковую канферэнцыю „Беларусь — спадчына і новая тоеснасць" у Ольштыне ў 1992 г.

З Таварыствам падтрымкі этнічных культур і рэдакцыяй бюлетэня „zaKORZENIEnie" можна кантактавацца па адрасе: Remigiusz Okraska, ul. Mrzygłodzka 50, 42-400 Zawiercie. **(вл)**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Забойства над Балятонам

Было добра за поўнач, калі на стале дзяжурнага камісарыята раззваніўся тэлефон. Прывыклы за гады працы да рознага, без эмоцый падняў трубку. Слухаў і відаць было, як павекай левага вока заіграў нервовы цік. Адклаў трубку і маўкліва глядзеў на тэлефон, які як знянацку пазваніў, так і змоўк.

— Забойства, ці звычайны жарт? — разважаў уголас. — Апошнім часам штораз больш гэтакіх.

Ноч непадзельна валодала над зямлёю. Выгода спала. Дзе-нідзе забрахаў спрасонку сабака ці, згубіўшы арыентацыю ў часе, заспяваў певень. Але, спахапіўшыся ў нетактоўнасці, замоўк і зноў уладарыла цішыня.

Каля другой ноччу да Балятона, як мясцовыя называюць балотністую рэштку прыгожай некалі на Выгодзе сажалкі, з двух бакоў пад'ехалі паліцэйскія машыны. Кішэнныя ліхтарыкі пачалі мацаць прыбярэжны трыснёг.

— Ёсць! — у цішы нават шэпт здаўся гучным.

У жаўтаватым святле ліхтарыкаў відаць было сілуэт чалавека. У густой балотнай вадкасці, паміж старымі аўтамабільнымі шынамі, ляжаў труп жанчыны. У адкрытых мутных вачах адбіваўся бледны пабліск месяца. Намоклую вопратку прымаразак пакрыў шэранню.

Дзень трагедыі быў, як кожны іншы. Людзі ўставалі, рыхтавалі дзяцей у школу, самі збіраліся на працу. Як штодзень адкрыцця крамы чакалі тыя самыя пастаянныя кліенты.

— Куплялі, як заўсёды, — кажа прадаўшчыца. — Пераважна кактэйлі, або таннае віно. Часам бралі на адданне, але заўсёды аддавалі. Не авантурнічалі. Бралі і ішлі на сваё месца, пад куст.

Холад неўзабаве выгнаў іх адтуль. Над самым берагам, у зацішным трыснягу паставілі з кардонкаў будан. Нават нейкі паламаны ложак паявіўся. І там днявалі, а хто і начаваў.

Ірына паявілася ў кампаніі недзе ўлетку. Пасварыўшыся з бацькамі і сястрою перабралася з Бэма да Ярка, які не будзь і год, як пакінуў турму. Спосаб быцця, хаця і палажыў на яе 28-гадовае жыццё сваю пячаць, не змог да канца зацерці яе прыгажосці. Супольна жылі, супольна хадзілі і супольна пілі.

— А ж прыемна было часам паглядзець. Ці то падпітыя, ці цвярозыя заўсёды ішлі трымаючыся за рукі. А за што пілі, то халера іх ведае, — гаварылі на Выгодзе. — Гінуць тут нічога не гінула.

У гэты дзень, так як і ў кожны, у будане было гамонна. Ніхто не прадчуваў злога. Трагедыя здарылася недзе каля восьмай вечара. З кожнай бутэлькай атмасфера гусцела. Можа і скончылася б на крыках ды мацюках, каб не жанчына ў кампаніі. Алкаголь разварушыў у Лютку мужчынскую сілу. Абхапіў Ірыну, як сваю, і давай падмацваць. Ярка гэта ўгнявіла. Адкрытыя алкаголем нервы не вытрымалі. Як трымаў у руцэ бутэльку з недапітым вінам, так і апусціў яе на Люткаву галаву. Той захістаўся і хутчэй ад хмелю, чым ад удару абсунуўся на зямлю. Для пэўнасці Ярак пачаставаў яго выспяткам і заняўся Ірынай. Кампанія не ўмешвалася. Занятая бутэлькай мо нават і не заўважыла, што дзеецца.

Ірына ад удару кулаком у твар паляцела ў трыснёг, што парастаў балоціну. Хацела падняцца, але бот Ярка вярнуў яе на месца. Енчала, прасілася. Аднак спушчаная з ланцуга нерваў злосць была неўтаймаваная. Біў яе нагамі дзе папала. Ірына замоўкла. Перастаў біць і Ярак. Плюнуў і, быццам нічога не здарылася, пайшоў дахаты.

Свядомасць вярнулася пасля кароткага сну, які прытупіў п'яную адвагу. Ярак спалохаўся. Глянуў на гадзіннік. Даходзіла дзесятая ночы. Узяўшы з сабой сабаку пайшоў у напрамку Балятона. Было ціха і пуста. Абышоўшы водаль берага, наблізіўся да будана. Зышоў уніз і бліснуў запальнічкай. Ірына ляжала на ўзбочыне, галавой пры самым муле. Не варушылася. Была халодная. Апаў на калені і разарваў на Ірыне спадніцу, каб паказаць на гвалт. Потым вырашыў, што найлепш будзе спусціць яе ў мулістае дно сажалкі. Аднак прымаразак згусціў балота. Не ўдалося. Кінуў на цела некалькі старых шынаў, што тут валяліся, выняў са свайго схову запасную на пахмелку бутэльку і пайшоў. Ішоў дахаты пацягваючы з рыльца. Алкаголь зноў пачаў усё лагодзіць.

Усё ж такі сумленне не вытрымала. Пазваніў у паліцыю. Прызнаўся. Забралі іх разам — Ірыну ў морг, Ярка ў арышт.

Два дні над Балятонам было ціха. Потым зноў сябрына пачала сходзіцца. Пра трагедыю ніхто не ўспамінае. От, быццам і нічога не здарылася.

**Міхаль Пашкоўскі**

# Наша пошта

**Юліта Валкавыцкая**, кл. I „б" Гайнаўскага беларускага ліцэя: Тваю карэспандэнцыю пра сустрэчу з прафесарам Янам Чыквіным атрымалі, але друкаваць не будзем, паколькі гэтую падзею раней апісала нам Анна Панфілюк (глядзі: „Ніва" № 47 ад 22 лістапада, с. 5). Інфармацыя пра сустрэчу напісана вельмі добра, таму заахвочваем Цябе працягваць супрацоўніцтва з намі. Пішы пра іншыя цікавыя здарэнні з жыцця школы і свайго асяроддзя.

# Най... най... най...

* Найбольшым чалавекам у свеце з'яўляецца 40-гадовы расіянін Аляксандр Сізаненка. Яго рост ажно 2 метры 42 сантыметры. Велічыня ягонай ступні — нумар 63.

* Найдаўжэй жыў сабака (аўстралійская аўчарка) — 29 гадоў 5 месяцаў.

* Найбольшае ў свеце пасажырскае судна Queen Elizabeth мела 314 м даўжыні і 36 м шырыні.

* Першы раз голую жанчыну паказалі ў кінафільме „Натхненне" 83 гады таму.

* Бюстгальтар быў патэнтаваны 84 гады таму.

* Найбольш крывавая бітва закончылася 82 гады таму над Самай у Францыі — загінула ў ёй 1,2 млн. людзей.

**(гай)**

# Вер — не вер

Дарагі Астроне! Снілася мне, быццам я пайшла са сваім сынам да стаматолага. Мы доўга чакалі там у чарзе.

І вось я выходжу з кабінета. Сына свайго я ўжо не бачу. Мо ён застаўся ў доктара, бо ж гэта яму трэба было палячыць зубы.

На двары я сустракаю свайго старога школьнага калегу, якога мы калісьці прazывалі „сланом". „Слон" ужо немалады, мне здаецца, што ён нават старэйшы за мяне. Ён, уяві сабе, кажа мне: „Я быў на тваёй разводовай справе. А ты чаму не была?" Я падумала, што, сапраўды, зусім забылася, што сёння я мела быць у судзе.

А пасля я сустракаю свайго былога мужа (мы развяліся пару гадоў таму, але я ніяк не магу забыць яго). Ён ішоў з нейкай жанчынай. Такі важны! Глянуў на мяне звысока, з нейкай саркастычнай усмешкай. Сэрца маё сціснулася ад болю. Калісьці яго ўсмешкі былі больш цёплыя ў адносінах да мяне.

І вось я ўжо ў судзе. Мне гавораць, што я на цэлых паўтары гадзіны спазнілася на справу. Буду мець у сувязі з тым непрыемнасці.

Суддзя спачатку была вельмі злосная, а пасля сказала, што ўсё будзе добра.

А я, дарагі Астроне, непакоюся, як усё абыдзецца. Бачыш, мы развяліся ўжо даўно, але справа падзелу маёмасці ўсё яшчэ цягнецца і, адчуваю, закончыцца не ў маю карысць. Муж у судзе паводзіць сябе вельмі брутальна, хацеў бы захапіць усё сабе і не даць нічога дзецям, а пра мяне ўжо і гаварыць не прыходзіцца. Як ты думаеш, што будзе?..

**Бася**

Бася! Твой сон — з серыі абразкоў з рэчаіснасці. Відаць, тое, што ты перажыла са сваім былым мужам, настолькі глыбока засела ў тваёй свядомасці, што яшчэ і сёння сняцца табе па начах сны пра яго. А ўсё табе сніцца так, як ты гэта ўяўляеш сабе: кінуў цябе, ходзіць цяпер з іншай жанчынай, а цябе абкідае іранічнымі ўсмешкамі.

Што датычыць вынікаў судовай справы наконт падзелу маёмасці, дык, мяркую, не будзе так кепска, хаця твой муж і паводзіць сябе брутальна. Суддзі ж таксама вочы маюць.

А, зрэшты, нават жа і ў сне тая твая суддзя сказала, што ўсё будзе добра, нягледзячы на тваё спазненне.

**Астрон**

# Разважанні селяніна

Пра праблемы жыхароў вёсак і нерэнтабельнасць сялянскіх гаспадарак гаварылі і пісалі многія чытачы. Загаварыў пра гэта нядаўна і мой знаёмы з Волькі-Тэрахоўскай Сцяпан П., з якім я нядаўна ехаў у Беласток.

— Пры камуне я змог утрымаць за малако ад шасці кароў амаль усю гаспадарку. Хапала на пагрунтовы падатак, штучнае ўгнаенне, а нават кавалак каўбасні. Зараз не магу расплаціцца з дзяржавай і ў трэцяй частцы ўсіх коштаў. Бо за мінеральную ваду плачу залатоўку за літр, калі мне за малако плацяць за той жа літр 30 грошаў. Вось што прынёс з сабою новы парадак! Даўней я лічыўся пераддавым земляробам, а зараз стаў „дзедам". Гавораць, што саюзнікі з Еўрапейскага Саюза загадаюць нам затрымаць усяго адну кароўку, каб малака ў Польшчы не хапала, а іхняе мы куплялі...

Іншае я пачуў ад знаёмага садавода з Бельшчыны.

— Урадзілі ў гэтым годзе яблыкі. Па тры штучкі выпадае на кілаграм. Ды дзе іх прадаць? На рынак у Бельску-Падляшскім прывозяць „забужакі". Шмат іх у кожны чацвер. А кліентаў мала, бо ў навакольных вёсках кожны селянін мае некалькі сваіх дрэўцаў. Яшчэ два гады таму не было праблемы. Прыязджалі пакупнікі з-за мяжы і грузілі на аўтамабіль па 500 кг. Зараз прыкрыўся гандаль. Пошліну вялікую мытнікі налажылі. Рускім нявыгадна купляць у нас яблыкі. У мяне зараз застаецца каля 150 тон фруктаў. З гэтым звязаны кошты; восенню трэба было наняць людзей сарваць яблыкі, зараз захаваць. Адны затраты. І як жыць селяніну?..

**(ус)**

# Псуюць рэпутацыю

**Адгалоскі**

Прачытаў я ліст спадара Ігната Рошчанкі з Кляшчэляў „Гэта не быў дар", які змясціла „Ніва" у 49 нумары ад 6 снежня 1998 г. І сумна мне стала на сэрцы ад таго, што людзі адмоўна выражаюцца аб супрацоўніках „Нівы". Разумею, што справа ў пэўнай ступені тычыцца і мяне (як карэспандэнта), бо пішуць людзі з майго наваколля.

Неаднойчы звяртаюся я з просьбай за матэрыялам для „Нівы" да розных людзей і ўстаноў з тэрыторыі Кляшчэлеўскай гміны. Як зараз пакажуся ў крузе знаёмых кляшчэлеўцаў? Ці схочуць яны нешта расказаць пасля таго, што прачыталі ў допісе (гай) пра „Новую капліцу"? Ці не палічаць тыднёвіка за „бульварную" і не вартую даверу газету?

Неаднойчы выказваўся я на старонках „Нівы" пра пісанне верагодных інфармацый. Аднак некаторыя калегі-карэспандэнты легкадумна ставяцца да гэтай справы. Чаму? Ці не хвалюе іх рэпутацыя „Нівы" і іхняя асабістая?

**(ус)**

# Турнір

19 і 20 снежня г.г. Асяродак спорту і адпачынку ў Гайнаўцы па вул. А. Дзевятоўскага 2 арганізуе адкрыты турнір у настольным тэнісе імя Багдана Леўчука, у гімнастычным зале мясцовай Пачатковай школы н-р 5 (пачатак мерапрыемства а гадзіне 11). Заявы прымаюцца па тэл. 682-27-76.

**(гай)**

# Папраўка

У артыкуле „Выступалі белліцэісты" („Ніва" н-р 49 ад 6 снежня 1998 года) пішучы пра выступленне ліцэістаў у сцэнцы паводле твора Я. Коласа „Дуб і чароціна" памылкова напісаў я, што выступала Мірaслава Ляшчынская, а сапраўды выступаў **Мірaслаў Ляшчынскі**. У чытачоў і зацікаўленых асоб прашу прабачэння.

**Аляксей Мароз**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Міpановіч.
**Адрас:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Prenumerata:*

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.




© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Ніўка

## Краса Аўлялii

Марыў Мікола Прынцоўскі Прынцам званы пра дачку, каб ано толькі найразумнейшая і найпрыгажэйшая была — то гадаваў бы яе як сапраўдную князёўну. Бо меў на чым — гаспадарка ўся змеханізаваная, кароў як сабак, поля як вокам акінуць і яшчэ столькі ж... Вядома, на самым пачатку то Мікола пра сына мроіў, але хай хоць і наследніца будзе! Ну, калі ўжо не найхарошчая, то хоць таго розуму хай крыху мае, каб школы пакончыла і вярнулася на такі маёнтак у найпрыгажэйшым закутку Усходняй Еўропы, што мёдам і малаком заўсёды славіўся. Бо каму ж тое ўсё пакінеш?

Нарадзіла Лізавета Прынціха Аўлялію. Ці будзе яна харошая ды разумная — ліха яе ведае. Ляжыць чырвонашчокая малеча, вачыма лупатымі лыпае, у пялюшках не праяўляе ніякіх прызнакаў асаблівае прынцоўскае прыгажосці. Пахрысціць трэба, каб якая паганая нечысць не мела доступу да нявіннай душачкі. Запрасілі Лізавета і Мікола Прынцоўскія на хрысціны з паўгміны, і сваякоў, і людзей знатных ды ўладных. Запрасілі і бабак-вядунняў (каторая экстрасенс з дыпломам, каторая звычайная знахарка), бо што крапіла не зможа, то палачка чарадзейная паможа. На хроснага папрасілі войта, на хросную маці — сакратара гміннай управы.

Сядзяць, п'юць, дарыць новаахрышчанай збіраюцца.

— Даю ёй прыгажосць незямную ды зграбную постаць! — махнула над Аўлялiяй палачкай вядуння Маланння і кульнула чарку.

— А я — кемлівасць к навукам і лагічнасць думкі, інтэлігентнасць прыродную, да таго ж практычны здаровы розум, — ахвяравалася вядуння Аўдакея, кранула каравым пальцам лобік малечы.

— А я пажадаю, каб гэтаму дзіцяняці заўжды спрыяла фартуна, грош к ёй каціўся струмянём, і ў латарэю ёй шанцавала, і на біржы, а ўсё без працы, — з усмешкай сказала Нінэля і тыцнула ў галоўку Аўлялii сваім чырвоным дагледжаным пазногцем (яна ж дыпламаваная ведзьма, мае паперы з самае Масквы!).

— Калі без працы, дык хай так і будзе, — засмяялася Вірынея, якую не запрасілі былі, яна ж, як заўсёды, усюды ўлезе. — Калі Аўлялія возьмецца за якую-колеч работу, нойдзе на яе сон непрабудны...

— Штосьці ты сёння, Вірынея, добра жадаеш, — уцешыўся Мікола. Хоць сам без працы жыць не мог, але марыў час ад часу паляжаць жыватом да неба, а каб усё само ў гаспадарцы расло. Адна нядзеля — во жыццё!

Ахрысцілі. Дзіцё вырасла ў дзеўку, а якую! Харошая, багатая, вучоная! Значыць, падзейнічалі чары! Але ці ўсе яны мелі моц, не скажам. Ці, напрыклад, кранулася Аўлялія нейкага занятку і заснула сном непрабудным хоць на момант? З'ехала была за мяжу Аўлялія. А ці там маюць моц наскія прароцтвы і пажаданні? Здаецца, не; паглядзіце на нашых міністраў: быццам бы ўсё робяць як трэба, паводле эканамічных навук, а ніяк у іх і нас разам з імі не атрымліваецца. А ўсе вучоныя ж! І раяць ім, і памагаюць, і даюць устаноўку ды палачкай махаюць пад носам...

Ну, але вернемся да нашай Аўлялii. Не пісала Аўлялія да бацькоў з-за мяжы, знаку жыцця не давала. Думалі, няйначай, заснула раз-два раз-два пашараваўшы еўрапейскія бруды, так ці не? Або зарабіўшы грошы красою — вось ты раз прайдзіся манекеншчыцай, і бух перад публікай?.. Бяда!

Але не, не заснула Аўлялія. Чакайма пра яе вестку ў нашым тэлебачанні. За палітыку вось узялася Аўлялія Прынцоўская! Ну, што гэта за работа! Абы цябе абралі, то і заснуць можаш. За такія грошы.

**Міра Лукша**

<u>**Фрашкі пра нашых**</u>

## Асветная пані

У палітыцы і працы
Ходзіць каралевай.
Ну, вядома ж, мае рацыю
(Справа глянь і злева).
Сваё імя з жарам крэсліць
Пад праўдаю слушнай,
Каб падставілі ёй крэсла
З мяккаю падушкай.
Раіць, дае прапановы,
Дурняў вучыць хоча,
Пра *развой роднае* мовы
Глаголіць, прароча.
За памылкі плаціць грошы
Ў Варшаве, людкове!
...Але я, Вандал, харошы,
Мо кончу ў паўслове...
Бо за ўрэдную работу
Трэба злупіць скуру
І прыбіць плакат на плоце:
„Плата за кульдуру!"
А за кожны *блонд* у кнізе
Вырваць зуб з пашчэнкі!
Нех юш венцэй не угрызе!
Нех **пачыта** венцэй!

**Вандал Арлянскі**

## Кароткі курс параноі

**Крамлёўскія куранты**

— Каго нагадвае абшчыпаны Ельцын?

— Грымасу на задніцы жалезнай лэдзі.

* * *

Адзначаць дзеі:
Хрушчоў,
выстаяўшы пры бясполым дэмане,
адлігу сплодзіў,
Брэжнеў — застой,
перабудову — Горбі.
Ельцын бясплодны.

* * *

Атэіст, але не ваяўнічы — ачышчаўся на споведзі Ельцын.

* * *

Прэзідэнт ляжыць у камфартабельным шпіталі. Чуецца дасканала.

* * *

— Якія ночы ўспамінае Ельцын?

— Белавежскія.

**Сідар Макацёр**



*На маразы — успамін лета з Орлі.*
Фота Ганны Кандрацюк

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. роў з насыпам для ўкрыцця ад стральбы, 8. пярэдняя частка будынка, што выходзіць на вуліцу, 9. вымаўленне ненацiскнога «о» пасля цвёрдых зычных, 10. удушлівы газ жоўта-зялёнага колеру, 11. доказ, гарантыя, 13. задняя частка тушы, 15. кітайскі імператар даўней, 16. прамы мае 90°, 20. невялікі абрус, 22. напр. гмінная або гарадская рада, 23. „Добрая ... далёка ідзе, а ліхая яшчэ далей", 27. Мікола, аўтар „Carmen de statura feritate ac venatione bisontis" (1470—1533), 29. жонка бацькі, але не маці, 30. каштоўнасці, якія выдаюцца ў лік будучых плацяжоў, 31. да яе імкненні, 32. мікраарганізм, 33. памяшканне для стаянкі самалётаў, 34. злучэнне трох атамаў кіслароду.

**Вертыкальна:** 1. трапічная птушка сямейства буслоў, 2. смутак з прычыны гора, 4. індыйскі паэт і драматург, аўтар драмы „Шакунтала" (5—6 ст.ст.), 5. выбуховае рэчыва, 6. рэвальвер з рухомым барабанам, 7. бурштын, 12. галоўны бухгалтар, 14. выклікае закісанне, браджэнне, 16. упрыгожванне мужчын і катоў, 17. сімвал дзяржаўнасці, 18. сіцылійскі вулкан, 19. стаячая скрынка з дзвярыма, 21. бясшлюбны стан удавы, 24. праліўны дождж, 25. варвар, 26. мае намер жаніцца, 27. курорт у Абхазіі, 28. паўднёваамерыканскі танец. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 45 нумара**

**Гарызантальна:** віск, Бажан, „Адысея", стол, Гулаг, яхідна, патрыярх, Няхай, Амазонка, Джакарта, лясун, балансір, талака, тэнар, гулі, Пашута, Мілан, сцяг.

**Вертыкальна:** Рагуля, канапа, інтэрнат, каляя, вывіх, песня, гайдамак, хрызаліт, нуда, храм, аніс, Каін, магнолія, Ярэміч, ураган, шаман, Бахус, Лагас.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Настаўнік тлумачыць вучням розніцу між прыяцелем і ворагам. Нарысаваў ён на дошцы вялікае кола, якое мае ўяўляць прадонне:

— Стаім над прорваю, а ззаду нехта хоча нас у яе сапхнуць. Нехта іншы, хто нас любіць, стрымоўвае нас спераду. Бачыце: той, каторы пхае нас у прорву — гэта вораг, а той, які ад гэтага бароніць — прыяцель. Паўтары, Коля!

— Вораг, гэта той, які пхае ззаду, а прыяцель пхае спераду.

* * *

— Меў я кашмарны сон, — кажа муж жонцы.

— Які?

— Сніўся мне мой уласны шлюб.

— З кім?

— З табою.

* * *

— Чаму наш сусед так лаецца?

— Або ўцёк яму сабака, або вярнулася жонка.

* * *

— Твой сябра то мае шчасце: пахаваў дзве жонкі, што атруціліся грыбамі.

— Ну, але гэтым разам была траўма чэрапа.

— Ах, так... Пэўна не хацела есці грыбоў.

* * *

— Ад двух тыдняў маеце вывіхнутую нагу, — дакарае лекар пацыента, — чаму ж вы не з'явіліся ў мяне адразу?

— Бо калі мне нешта дакучае, жонка гаворыць: „Мусіш кінуць курэнне".

* * *

Сустрэча на вуліцы двух знаёмых:

— Сёння няма ўжо сапраўдных сяброў, — наракае адзін. — Уяві сабе, што сёння я сустрэў на вуліцы аднаго і папрасіў у яго мільён пазыкі, а ён, нелюдзь, адмовіў...

— Мушу табе прызнацца, — адказвае другі, — што я таксама з'яўляюся такім жа бесчалавечным.

* * *

Вядуць пакойніка. Перад труною нясуць падушку, а на ёй ножніцы. Малы хлопчык пытае бацьку:

— Татка, чаму нясуць ножніцы на падушцы?

— Бо пакойнік быў краўцом.

— А што будуць несці, — дапытваецца далей малеча, — калі будуць хаваць гінеколага?

* * *

Незнаёмы пытае ў дзвярах:

— Ці тут жыве інжынер?

— Не, тут жыве кампазітар. Інжынер жыве дзве актавы вышэй.

* * *

Ксёндз пасля ўсяночнай гульні ў карты, спяшаючы на імшу, засунуў карты ў рукаў і так прыбег у касцёл. Падчас пропаведзі махнуў энергічна рукою і карты рассыпаліся на падлогу побач стоячых ля амбона дзяцей.

— Пазбірайце, дзеткі, гэтыя святыя абразы, — не разгубіўся святар.

Дзеці збіраюць.

— Якога святога маеш, Юзік? — пытае ксёндз.

— Гэта бубновы валет.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014